— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

2 ЖНІЎНЯ 1996 г. № 31 (3855) Кошт 2 500 руб.






# ПРОСТА ХОЧАЦЦА ЖЫЦЬ...

*"ЗВІНЯЦЬ ЦЫМБАЛЫ І ГАРМОНІК" У ПАСТАВАХ І ГЛЫБОКІМ*

## СЕЙБІТ АПЯРЭДЖВАЕ ЧАС

Быццам бы і не ўпісваюцца яны ў паварот часу — з гэтым іхнім памкненнем "сеяць разумнае, добрае, вечнае", выклікаючы ў каго паблажлівую ўсмешку, у каго ціхае раздражненне. Быццам бы і праўда — ну пры чым тут "разумнае-вечнае", калі народу цяжка, некаторым нават жыць не ў радасць, а гэтыя — балююць, фестываляць...

Але ж яны, сейбіты і руплівцы на ніве культуры, — таксама людзі сярод людзей. І, пэўна, — сярод самых безабаронных суайчыннікаў нашых, найпершых кандыдатаў у "Чырвоную кнігу" чалавецтва. Ды ўсё ж спраўляюць свой падзвіжніцкі чын, бо даў ім Бог мудрасці глядзець крышачку наперад. Бо разумеюць: адымі яшчэ ў народа любімыя традыцыйныя святы, забарані ўсміхацца ды спяваць, — здарыцца катастрофа, горшая за чарнобыльскую. Бо калі яны перастануць гаварыць з людзьмі праз мастацтва — па шчырасці, душэўна, — прыйдзе нехта іншы, чужы, і павядзе сваю размову, і людзі будуць вымушаныя слухаць яго, верыць, падпарадкоўвацца. Забываць сваё і сябе.

Дзякуй Богу, нават сярод самых зацятых скептыкаў нямала такіх, у чыёй душы прыхавана іскрынка, здатная ўспыхнуць жыццядайным агнём захаплення і творчасці. Як сказаў паэт: "Жыццё даецца, каб жыццё тварыць". І ўрэшце, што ні кажыце, народнай творчасцю трывае-сілкуецца жыццё наша.

А ўвогуле — усцешна думаць, што ёсць бацькі, здатныя ва ўмовах жорсткай сямейнай эканоміі "ўкладаць капітал" у будучыню, у асобу свайго дзіцяці, купляючы яму перадусім не модную "анучку", што праз паўгода забудзецца, а мудрую кніжачку, густоўную маляванку, білет на тэатральную прэм'еру...

Мо і не разважала б я гэтак і са спакойным сумленнем далучыла б свой голас да тых, каму хочацца цвярозай ашчаднасці ў фінансаванні сённяшняга фестывальнага руху: маўляў,

*(Працяг на стар. 11)*





# Васіль БЫКАЎ: "ЁН МЕЎ ВЯЛІКУЮ ПАТРЭБУ Ў СВАБОДЗЕ"

*У час здымак фільма пра Алеся Адамовіча "Развітальнае" ў студзені 1995 года рэжысёр Фелікс Кучар гутарыў з Васілём Быкавым. Фрагменты гутаркі ўвайшлі ў фільм, а цалкам размову прапануем увазе чытачоў "ЛіМа".*

**— Васіль Уладзіміравіч, як павялося, пра нябожчыка альбо добра, альбо нічога. Я прачытаў апошнюю аповесць Алеся Адамовіча "Vixi". Чалавек падводзіць вынік свайго жыцця, глядзіць на сябе як бы звонку, ацэньваючы сябе даволі жорстка, без сантыментаў (маю на ўвазе першую частку аповесці: "З-пад кропельніцы"), быццам з таго свету. Мяне гэта ўразіла і ўсхвалявала. Я ўпэўнены, што гэта быў чалавек незвычайны. Працытую:**

**"Бласлаўляю, дзякую свайму сэрцу, што адмовілася качаць кроў здрадніка. Японцы маюць рацыю: важна не як жыў, а як памёр. Мог усё пражытае жыццё загадзіць".**

**Ён вельмі балюча адносіўся да здрады. Алесь Адамовіч не здрадзіў нават М. Гарбачову, якому не здраджваў толькі гультай...**

— Ну ён жа сам там гаворыць, што менавіта такая пошасць нашага часу, як здрада, яго абышла. Я сказаў бы, што яна і не магла ў яго ўсяліцца. Ён быў зусім іншы чалавек. Гэта быў чалавек арганічна верны сваім, перш за ўсё ідэйным прынцыпам, можа быць таксама эстэтычным, чалавек вельмі пэўнага характару. Прычым вытокі пэўнасці ў гэтым аўтабіяграфічным творы выказваюцца. Але тым не менш, калі ўжо гаварыць абагулена, дык я б сказаў, што вытокі гэтай пэўнасці ляжаць у катэгарычным непрыняцці той рэчаіснасці, каторая нам была прадыктавана ў таталітарнай дзяржаве і каторая зыходзіла ад камуністычнага кіраўніцтва, камуністычнай ідэалогіі. Ён гэта не прыняў вельмі рана і непрыняцце пранёс праз усё жыццё. Шлях непрыняцця ў розных людзей праходзіў па-рознаму. Некаторыя ў сваім юнацтве прынялі ідэалогію таталітарызму, а пасля, пад націскам жыцця, жыццёвых хваль адмовіліся ад яе. Тут вызначаўся пэўны ідэалагічны працэс, часам драматычны. Сам Алесь Адамовіч гаворыць, што гэта яго абмінула, таму што з юнацтва яшчэ ён, як чалавек разумны і сумленны, абышоўся без гэтых эвалюцый.

**— Мяне цікавяць яго адносіны з начальствам. Кажу "начальства", маючы на ўвазе ўсіх начальнікаў. Тут і з ЦК КПБ і іншыя. Адамовіч пра іх заўсёды гаварыў "ЯНЫ". Начальства ёсць начальства. Але, мне здаецца, "ЯНЫ" адносіліся да Алеся Адамовіча наздвычай нервова, гублялі раўнавагу, калі чулі яго імя. У гэтым было не толькі выкананне нейкага загаду. "ЯНЫ" быццам адчувалі, што гэта чалавек, так бы мовіць, іншае пароды. Прычым, у гэтай аповесці ён не называе прозвішчаў. Не будзем кагосьці вінаваціць і мы...**

— Ну, у некаторых рэчах ён называе канкрэтныя імёны. Мы ўсе схільны, і ён быў такім, дыферэнцыраваць начальства. Яно таксама не было аднародным. Другая справа, што пазіцыя начальства, ідэалогія начальства да такіх людзей, як Адамовіч, была адназначнай. Хаця б па той прычыне, што яна выпрацоўвалася нават не ў Мінску, яна выпрацоўвалася ў Маскве, на самым высокім узроўні. І пасля, праз свае рычагі — партыйныя, кадэбісцкія і ўсе іншыя — яна ажыццяўлялася ў дачыненні да канкрэтнай асобы, якой быў Адамовіч. Адамовіч для іх быў чалавек чужы і варожы. Варожы хоць бы таму, што не ўспрымаў іх ідэалогію,і не толькі не прымаў пасіўна, як цяпер кажуць, быў іншадумцам. Ён яшчэ быў чалавек актыўны, ён быў творца, ён быў пісьменнік, ён быў філосаф, і яго іншадумства для начальства, як вы кажаце, мела небяспечны характар. Успомніце, ад самага пачатку, як ён адмовіўся падпісаць ліст маскоўскіх прафесараў супроць Даніэля і Сіняўскага. Ужо тады, ад самага пачатку, была распрацавана метода барацьбы з Адамовічам. Яна працягвалася ўсё жыццё, да самых апошніх яго хвілін. З ім актыўна працавалі, супроць яго актыўна змагаліся. Гэта змаганнне ішло на ўсіх магчымых узроўнях, пачынаючы ад Палітбюро, Камітэта дзяржаўнай бяспекі і канчаючы яго акружэннем, яго прыяцелямі, супрацоўнікамі і гэтак далей. Усе ўплывалі ў пэўным кірунку. І другі чалавек, на месцы Адамовіча, змяніўся б, павінаваціўся б, пасыпаў бы галаву попелам і перайшоў бы на іншыя пазіцыі. Альбо, у лепшым выпадку, замоўк бы, займаўся б навукай, літаратуразнаўчай ці якой яшчэ і маўчаў бы. І гэта дало б пэўныя выгоды, званні, прэміі,



бытавыя выгоды. Аднак ён не пайшоў на гэта і праз усё жыццё змагаўся з пачварай, якой была сістэма, і, па сутнасці, згарэў у змаганні.

**— У гэтай кнізе мы сустракаемся з адносінамі чалавека з самым галоўным начальнікам — Панам Богам: "Добра быць запісной кніжкай Бога. Думка вылецела аднекуль са сну"...**

— Наколькі я ведаю, яго адносіны да рэлігіі, да хрысціянства былі кшталту Паустоўскага. Ён высока цаніў Евангелле, Стары Запавет, Біблію. Але ўсё ж такі яго адносіны да сучаснай царквы былі неадназначныя. Хаця ён цікавіўся ёю, былі пэўныя кантакты з царкоўнікамі, нават з вышэйшымі іерархамі. Але наколькі я памятаю яго беглыя размовы на гэтую тэму, ён не знайшоў таго, чаго шукаў. Зразумела. Бо сучаснае хрысціянства, асабліва праваслаўе ў нас змянілася. Не тое, што было калісьці. Царква змянілася за атэістычныя дзесяцігоддзі. Я тут не магу з дастатковай упэўненасцю сказаць, я не валодаю фактамі, каб рабіць нейкія высновы. Я думаю, што яго адносіны вызначаюцца адносінамі сучаснага інтэлектуала, які ў сваіх кантактах з царквой далёка не пайшоў.

**— Царква — царквой. Але прызнаваць існаванне Бога? У гэтай аповесці ён гаворыць, што калі ўбачыў, як забіваюць нашых палонных, дык нават крыжык сарваў, што дала яму маці.**

— Факт з ваеннапалоннымі быў на чыста эмацыянальнай аснове. Такое перажылі шмат якія людзі не толькі ў наш час, але можа больш чым за два тысячагоддзі. Узнікаў пэўны пратэст супроць Бога, нават бунт, асабліва, калі гэта пазіцыя праецыравалася на тое, што адбывалася. А такіх драматычных калізій, як вядома, было даволі ў гісторыі чалавецтва. Зразумела, што прынцыповых высноў з гэтага рабіць нельга.

**— Адамовіч піша: "Мабыць, праў сябра-філосаф, які напісаў, што радзіма — гэта не толькі нейкая прастора, але і час, у які табе давялося жыць".**

— Адамовіч быў чалавекам універсальным у нашай культуры. Зразумела, тое, што тычыцца катэгорыі часу. А месца — адпаведна маштабу яго асобы, вялікае. Тут могуць быць розныя азначэнні гэтага месца. Для каго — гэта вёска, для каго — кватэра, для каго — краіна, а для вялікага чалавека — уся зямля, зямныя абшары. Што тычыцца Адамовіча, то, безумоўна, ён быў чалавек і мысліцель еўрапейскага маштабу, не меней. Яго нельга ідэнтыфікаваць з беларускай, альбо расійскай культурай. Ён, безумоўна, належыць да дзвюх гэтых культур і болей. Я б яго аднёс да ўсёй сучаснай еўрапейскай культуры.

**— І ў той жа час ён некалькі разоў паўтарае: у Глушу! У Глушу! У Глушу! Можа, гэта і ёсць прыналежнасць да сусветнай культуры?**

— Глуша — яго карані. Кожны чалавек ідзе з вытокаў. З малога да вялікага, з прыватнага да агульнага. З'ява універсальная. Напрыканцы жыцця чалавек вяртаецца да сваіх вытокаў не толькі ў сэнсе фізічным, але таксама ў творчым, філасофскім. Важна яму зазірнуць туды і, можа, каб замкнуць гэта кола. Усё гэта ўласціва для арганічнага чалавека і не толькі для Адамовіча. Я ведаю выпадкі, калі ардынарныя людзі, каго мы завём простымі, дзе толькі не жылі, асабліва ў наш час, які кідае людзей на вялікія прасторы, імкнуліся ў свой смяротны час туды, дзе нарадзіліся. Гэта можа быць памкненне нават біялагічнае.

**— Але ў Адамовіча яно ёсць, а ў іншых — няма. Наадварот, цураюцца, што яны з вёскі. Мне гэта незразумела, асабліва ў людзей інтэлігентных, творчых, якія займаюцца мастацтвам, літаратурай, кіно і г. д.**

— Такога колькі заўгодна. Інтэрнацыяналізм, які ў нас быў у модзе і каторы так насаджалі, грунтаваўся на адмове ад свайго роднага. Таму што менавіта вернасць сваім вытокам, сваёй маленькай радзіме бальшавіцкая ідэалогія трактавала як нацыяналізм, як праявы праклятага нацыяналізму. Калі чалавек не любіў наогул нічога і не меў ніякіх прывязак ні да сваёй радзімы, ні да свайго кутка, ні да сваёй вёскі, а толькі да бальшавіцкай ідэалогіі, тады гэта лічылася добра. Калі ж яму нешта падабалася і ён быў верны нейкім карэнным вытокам свайго жыцця — гэта лічылася праклятым нацыяналізмам. І ён каштаваў жыцця многім і нават пакаленням каштаваў. І толькі цяпер людзі пачынюць разумець, што такое быў гэты інтэрнацыяналізм і каму ён служыў, пачынаюць разумець сутнасць нацыяналізму. Але для гэтага павінен быў прыклад многіх, барацьбы многіх, у тым ліку і Адамовіча.

**— Добра, але гэта — ідэалогія, палітыка. Мне незразумела, як менавіта творчы чалавек, які лічыць сябе творчым: пісьменнік, мастак, рэжысёр — цураецца сваіх вытокаў. Гэта нешта не тое. Ні ў кога нічога добрага такім чынам не атрымлівалася.**

— Я думаю, што чалавек з такімі ўстаноўкамі на адмову свайго карэннага не можа быць паспяховы ў сваёй творчасці, зрабіць штосьці важнае і вартае ў галіне хоць бы мастацкай. Але за тое ён яшчэ нядаўна меў пэўныя перспектывы ў сваім чыноўніцкім служэнні. Я чытаў мемуары аднаго, як пішуць, віднага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі, дзе ён ставіць сабе ў заслугу, што за ўсю сваю партыйную кар'еру не зрабіў ні адной паслугі аднавяскоўцам. Тым самым ён хацеў прадэманстраваць шырыню сваіх памкненняў, што ён, не робячы паслугі аднавяскоўцам, аблагадзецельстваваў усё чалавецтва. Ну, вядома якое чалавецтва, сацыялістычнага лагера, відаць. Калі чалавек не мае цеплыні да свайго карэннага, роднага, да зямлі і да людзей, ён абсалютна не варты і для чалавецтва. Гэта проста зомбі, альбо скончаны эгаіст і цынік.

**— Прасцей кажучы, халуй... Яшчэ адна адметная рыса Адамовіча: іронія, дакладней самаіронія...**

— Трэба мець на ўвазе, што іронія і самаіронія ў нашым нядаўнім мінулым была пэўная пазіцыя даволі шырокіх колаў творчай інтэлігенцыі, інтэлігенцыі не ангажаванай, не партыйнай. За яе можна было схавацца, каб знайсці сродкі самавыражэння, і яна шырока выкарыстоўвалася і ў беларускай літаратуры, і ў расійскай асабліва. Не адышоў ад гэтага і Адамовіч. Гэта была адна з дэмакратычных пазіцый. Паколькі дэмакратычнага самавыражэння ў наш таталітарны век было не многа, Адамовіч ёю карыстаўся.

**— "Іх шкадаваў, а любіў — сябе? І яшчэ — свабоду сваю. Вышэй за ўсё. Нават ад любові свабоду". Узнікае філасофская катэгорыя — свабода...**

— І не толькі філасофская. Гэта і эстэтычная катэгорыя і ў большай меры — грамадзянская. Уся справа ў тым, што наша грамадства адвучана ад яе. Ужо многа гадоў, дзесяцігоддзяў, нават стагоддзяў існуючы без гэтай свабоды, мы перасталі думаць, што яна камусьці патрэбна. Тым больш, што несвабода давала пэўныя матэрыяльныя магчымасці жыць. Памкненне да свабоды нічога, апроч няшчасця, апроч трагедыі для асобы, не несла. Але ўся справа ў тым, што ў мастацтве, у гуманістычнай літаратуры немагчыма абысціся без свабоды. Сапраўдныя мастакі, сапраўдныя філосафы вельмі пакутавалі ад недахопу свабоды і выкарыстоўвалі кожную магчымасць яе, а, як вядома, магчымасці былі звужаныя, карысталіся нейкімі кавалачкамі, дозамі свабоды, таму вельмі ёю даражылі. Я разумею, чаму гэта для Адмовіча было важна. Ва ўмовах несвабоды ён не мог працаваць. У гэтым вялікая драма асобы ў наш час. І толькі напрыканцы жыцця ў гэтай драме перамагаў мастак. Таму можна зразумець Адамовіча, каторы многа пра гэта пісаў. Ён меў вялікую патрэбу ў свабодзе.

**— А які быў чалавек Алесь Адамовіч?**

— Яго асоба, чалавечая асоба дарэшты выразілася ў яго творах. На масавым узроўні прынята, што вялікі мастак або мысліцель — нешта незвычайнае. На самай справе незвычайнасць тоіцца ў глыбі яго духу, інтэлекту і яна знешне ніяк не выглядае. Вось Адамовіч быў такі, самы звычайны чалавек. Яго нейкія незвычайнасці можна пералічыць на пальцах. Па-першае, ён не ўжываў алкаголю. Такое ў наш час не вельмі здараецца, і гэта выклікала сярод сяброў розныя пасмешкі. Я адчуваю, што ён сам перажываў ад таго. Яго натура не мела патрэбы ў алкагольным допінгу. Бо ў яго галаве ішоў пэўны, вельмі глыбокі і важны працэс. Алкаголь не мог тут быць дапамогай. Ён мог толькі перашкодзіць, збіць з панталыку, як кажуць. Хаця бывае па-рознаму. Я ведаю некалькі выдатных мастакоў, каторыя тварылі дзякуючы алкаголю. Алкаголь быў стымулам і допінгам. З Адамовічам усё было інакш. Хаця ён вельмі любіў тое, што мы завём кампаніяй, "общением". Ён заўсёды, калі пісьменнікі былі яшчэ багацейшыя, ішоў у рэстаран, прысутнічаў там, хаця сам, апроч мінеральнай вады, не ўжываў нічога — не толькі крэпкіх напояў, але нават піва. Я думаю, што яму зусім была проціпаказана такая рыса, як нарцысцізм. Ён не зважаў, як выглядае, як яго словы альбо думкі будуць успрыняты навакольным асяроддзем. Для яго, як для Хрыста, даражэй за ўсё была ісціна і ён гэту ісціну выказваў у мастацкіх творах, у публіцыстыцы, з парламенцкай трыбуны, дзе толькі мог. У гэтым сэнсе ён быў нястомны.

А ўвогуле, з ім было лёгка сябраваць, ён быў непатрабавальны, ён быў ненадакучлівы, умеў, аднак, адчуваць блізкага чалавека. У гэтым сэнсе чуйнасць яго душы была незвычайная. Як ні дзіўна, ён, такі катэгарычны ў сваёй творчасці, у сяброўскай размове, калі ён адчуваў нязгоду свайго апанента, вельмі далікатна прыпыняў размову, ніколі не ішоў на такія гарластыя высвятленні адносін. У гэтым сэнсе ён быў надзвычай далікатны і інтэлігентны чалавек.

*(Працяг на стар. 12)*

# ПЛАНУЕ "МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА"

**Што ж мае намер прапанаваць чытачу ў перспектыве адно з вядучых выдавецтваў нашай дзяржавы? Атрымаць адказ на гэтае пытанне можна, калі пазнаёміцца з тэматычным планам "Мастацкай літаратуры" на 1997 год, які нядаўна паступіў у кнігарні. Канечне, і ў "МЛ", як і ў іншых дзяржаўных выдавецтвах, некаторыя пазіцыі (а іх, на жаль, набіраецца шмат) пераносяцца з году ў год. Ды не віна ў тым калектыву, а бяда. Тым не менш хацелася б спадзявацца, што запланаванае ўсё ж пабачыць свет, а ў выніку ўсе мы станем духоўна багацейшымі. Мяркуйце самі...**

**Плануецца выпусціць асобныя тамы Збораў твораў Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, А. Зарыцкага, К. Крапівы, А. Кулакоўскага, Я. Купалы, І. Чыгрынава; выбраных твораў А. Адамовіча, В. Адамчыка, В. Зуёнка, У. Калесніка, В. Карамазава, А. Кудраўца. Серыя "Спадчына" папоўніцца такімі кнігамі: "Песня пра зубра" М. Гусоўскага, "Паклікаы краінай Беларусь" К. Езавітава, змест якой складуць вершы, пераклады, перапіска, успаміны выдатнага дзеяча нацыянальнага Адраджэння, а таксама згадкі пра яго, развагі Л. Геніюш, У. Жылкі, В. Ластоўскага, П. Мядзёлкі і інш. У гэтай жа серыі падрыхтавана (укладанне, пераклады, прадмова, пасляслоўе і каментарыі Г. Кісялёва) і кніга "К. Каліноўскі. Творы. Дакументы".**

**У "Бібліятэцы беларускай прозы" запланаваны аднатомнікі В. Супрунчука "Фаварыт Карл" і У. Ягоўдзіка "Шчыраю ноччу", у серыі "Галасы беларускага замежжа" — выбранае М. Кавыля "Міжагнёўе", у "Бібліятэцы беларускай паэзіі" — зборнік А. Ставера "Водсвет маладзіка", у "Скарбах сусветнай літаратуры" — зборнік "Паэзія польскага рамантызму" і раман Г. Сянкевіча "Quo vadis" ("Куды ідзеш"). Будуць прадстаўлены і такія вядомыя серыі, як "Бібліятэка замежнай прозы", "Кніга перакладчыка". Распачнецца і новая — "Чароўнае слова": казкамі М. Канапніцкай "Пра гномаў і сіротку Марысю".**

**Па раздзеле "Паўторныя выданні" значацца кнігі Р. Баравіковай "Сад на капялюшыку каханай", М. *Гіля "Прагал"*, А. *Жалязоўскага* "Супроць плыні", З. Марозава "Вянкі Любві, Веры і Надзеі", А. Палітыкі "Ключы ад сэрца".**

**І, зразумела, не абыдзены ўвагай новыя творы беларускіх пісьменнікаў. Па раздзеле "Проза" гэта — "Кілавы д'ябал" В. Адамчыка, "Перавал" Л. Арабей, "Куды адлятаюць ластаўкі" Г. Багданавай, "Імем Айца і Сына" Т. Бондар, "Бедна басота" В. Гардзея, "Гадара" І. Жарнасек, "Дзённае паляванне на месяц" А. Жука, "Незламаная свечка" А. Казлова, "Чорныя цені" І. Канановіча, "Арляк і зязюля" М. Кусянкова, "Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста" Л. Левановіча, "Хаос" Г. Марчука, "Саксафон Чынгісхана, альбо Хворыя грошы" Д. Падбярэзскага, "Спазнаецца асоба мужчыны" У. Саламахі, "Прузі" Ю. Станкевіча, "Аповесці, апавяданні" А. Федарэнкі, "Иду и возвращаюсь" Н. Цыпіса. У серыі "Першая кніга празаіка" выйдуць "Цэнзарскія нажніцы" С. Астраўца, "Трэцяя асоба" У. Дуктава, "Распячатка чорнай скрынкі" Я. Кантылёва, "Той, хто будуе горад" У. Клімовіча, "Пошукі ідыліі" В. Мартыненкі, "Азартныя гульні" У. Міхно.**

**Багаты па назвах і раздзел "Паэзія" — "Антычны дождж" В. Аксак, "Укрыжаванне" М. Арочкі, "По другую сторону дыхания" А. Аўруціна, "З чорным катом на плячы" Р. Барадуліна, "Нястомны вобраз" Р. Бялячыца, "Струна" Н. Гальпяровіча, "Брама зімы" Ю. Голуба, "У храме хараства і смутку" В. Жуковіча, "Начное святло" А. Зэкава, "Асенні мёд" Г. Каржанеўскай, "Срэбра залёнай травы" А. Пісьмянкова, "Экзарсіс" Л. Рублеўскай, "Зачараваная краіна" Л. Сільновай, "Прычасце" Р. Тармолы-Мірскага, "Кудзелісты сняданак" Г. Юрчанкі, "Беражанкі" В. Яраца і інш. У серыі "Першая кніга паэта" чакаецца такое папаўненне: "Кроў Сусвету" В. Куставай, "Вырай" Л. Раманавай, "Чорная ружа" І. Хадарэнкі.**

**Кнігі "Пісьменнікі. Кнігі" С. Андраюка, "Абуджаная памяць" А. Вераб'я, "Прысутнасць былога" У. Мархеля, "Сведчанні" С. Марчанкі, "Гутаркі з Максімам Танкам" М. Мікуліча, "Непазбежнасць выбару" Г. Тычкі, "Скрыжаванні шляхоў" К. Хромчанкі, "Роздум на апошнім перавале" І. Шамякіна выйдуць па раздзеле "Крытыка і літаратуразнаўства".**

**Як аператыўныя выданні запланаваны зборнік чарадзейных казак І. Бурсава, напісаных як па-беларуску, так і па-руску ("Певень на Ксеневым паркане. "Купальскі клад"), рэпрынтнае перавыданне "Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі" В. Ластоўскага, "Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста" (пераклад А. Клышкі, ілюстрацыі А. Кашкурэвіча). Збор твораў М. Танка ў двух тамах.**

Крытыка

# НА ШЛЯХУ ДА ПАКАЯННЯ

***Ніколі яшчэ так уладна не дзейнічала паэтычнае слова на душу, свядомасць, эмацыянальны свет, як у час знаёмства з паэмай Сяргея Законнікава "Зязюля" ("Полымя", 1996, N 4). Твор прачытваецца на адным дыханні. Замірае апошні акорд гэтага сурова-трывожнага, адчайна-журботнага, стрымана-горкага рэквіема па жыццю сучаснага беларуса, а ты застаешся па-ранейшаму ў нейкім зняможаным здранцвенні перад мужнасцю праўдзівага слова Паэта.***

Сапраўды, так пісаць — што ісці на Галгофу. Аднак ёсць у С. Законнікава мужныя аднадумцы, хто ўжо не раз сваім мастацкім словам і учынкам узыходзіў прарочым шляхам на сваю Галгофу, Галгофу свайго таленту. Гэта і знакамітыя ў вяках Еўфрасіння Полацкая і Францыск Скарына, і трагічны Я. Купала, і сурова праўдзівы В. Быкаў, што родам з той жа Ушацкай зямлі.

Вядома, такі твор, як паэма "Зязюля", не ўзнікае нечакана. Перад гэтым былі "Чорны быль", "Цівалі". Асабліва вылучаецца новы твор С. Законнікава на фоне сучасных паэтычных набыткаў. Тут з выключнай завостранасцю, як і ў публіцыстычнай паэтычнай плыні, узнімаюцца актуальныя праблемы нашага часу. Дарэчы, публіцыстычную аголе-насць, нават залішнюю скіраванасць сучаснай паэзіі ў свет публіцыстычнай палемічнасці шчыра тлумачыў Ніл Гілевіч як праяўленне грамадзянскай пазіцыі беларускіх паэтаў, кроў якіх бярэ свой пачатак ад продкаў-вояў.

Паэма С. Законнікава з такой вясноваю назвай выдатна спалучае як грамадзянскую *сталасць і страсць паэта, так і* ўзровень яго паэтычнага пісьма, жывое дыханне літаратурных традыцый. Тут шчасліва суіснуюць у адным парыванні неспакойная думка і высокі мастацкі густ, культура вобраза і багацце рытмічнага ладу, надзвычайнае ўменне арганізаваць у мастацкае цэлае балючыя і разнастайныя малюнкі жыцця.

Па сутнасці, для сённяшняга чытача — асабліва настаўніка беларускай мовы і літаратуры — гэта цудоўная мажлівасць далучыць сваіх выхаванцаў да бягучага літаратурнага працэсу, паказаць, як адыходзіць сучасная паэзія ад залішняй публіцыстычнай зададзенасці, палітычна-мітынговай напружанасці.

Паэта хвалюе, у першую чаргу, лёс, будучыня народа, краіны, дзяржавы. Б'ецца растрывожаная думка ("пытанні раздзёўбваюць скронь") пра тое, чаму "на беразе гэтым", дзе жыве чытач, пачалася часіна распаду, чаму

**Зямлю запаланілі зноў чужакі —**
**Палоній і ліцій,**
**рутэній і радый**
**Смяротны свой баль**
**будуць правіць вякі.**

Аднак праблема нацыянальнага гора, бяды выходзіць у творы далёка за межы чарнобыльскай трагедыі. Глабальнасць і абвальнасць нацыянальнай катастрофы *бачыцца ў тым, што даўно пачаўся* "душы беларускай распад". Што і як утрымае беларуса ад поўнага гістарычнага небыцця?

**Хутка змяце, як вецер,**
**Семя пустое час.**
**Будуць усе на свеце,**
**Толькі не будзе нас.**

Сказана катэгарычна і горка. І на тое ёсць усе падставы. Мастак знайшоў магчымасць, акінуўшы неаглядную даль вякоў, злучыць надзейна, трывала і славу былую, і ганьбу векавую, і гістарычную растрывожанасць долі беларуса, і яго асабістую віну ў сваёй безадказнасці перад векам, гісторыяй, часам. Здаецца, не будзе нацяжкай, калі скажам, што з часоў "Новай кнігі" А. Куляшова ў нас не было мастака, які б так арганічна ўмеў выявіць канкрэтнае аблічча часу, яго гістарычны рух і філасофскую змястоўнасць. Тое, што мыслілася ў А. Куляшова як велічнае праяўленне чалавечага розуму, яго генія ў часе (паміж наступным і былым ёсць жывая сувязь — чалавек), у С. Законнікава набывае іншае і сэнсавае, і вобразна-эмацыянальнае напаўненне. Чалавек можа абарваць усе сувязі часоў і пакаленняў, зямлі і неба, душы і света. І хоць лірычнаму герою пакуль толькі мроіцца, сніцца магчымае апакаліптычнае самазнішчэнне планеты, аднак наш час дае ўсе падставы паверыць у мажлівасць гэтай жудаснай фантазіі:

**Зямля гайдаецца калыскай пустою**
**На цвічку самотнае зоркі.**

*Жывая канкрэтыка часу, быццям змясцілася* ў паэме "Зязюля" між двух берагоў: тым, дзе выпала доля чалавеку нарадзіцца, дзе адчыніліся яму высокія дзверы храма жыцця, і гэтым, дзе "нязбытнае гора", дзе "манкур*цтва і здрада, нянавісць і пыха*". Наогул, вобразная сістэма паэмы — гэта асаблівы свет, які заслугоўвае грунтоўнага даследавання. Безумоўна, скразным у творы з'яўляецца характэрны для беларускіх лясоў вобраз зязюлі. І тут заўважаем здольнасць мастака, адштурхнуўшыся ад літаратурнага вопыту папярэднікаў (той ж А. Куляшоў, напрыклад), ісці сваім шляхам. У ідэйна-мастацкім змесце паэмы вобраз зязюлі — гэта і канкрэтная праява беларускага лесу, яго душа, гэта і вяшчуння, што адчувае (ведае) — па народным ўяўленні — працягласць жыцця чалавечага ў часе, гэта і як увасабленне высокай наканаванасці жыццёвага лёсу. Ёмістасці вобраза можна дзівіцца бясконца: баравая зязюля ўшацкіх далёкіх лясоў, скалелыя вяшчунні анямелых брагінскіх бароў, зязюля — заведзены Богам гадзіннік жыцця, шэрая зязюля — жаночая душа ў скрушным мацярынскім горы. І ўсё ж, калі куляшоўская *паэзія наскрозь пракукавана зязюлямі*, што зычаць чалавеку доўгі лёс, калі вобраз нясе высокі зарад гармоніі, прыгажосці, дасканаласці, разумення сэнсу, з'яўляецца сімвалам вечнасці, у паэтычным адкрыцці С. Законнікава гэта традыцыйны для аўтара "Новай кнігі" вобраз набывае зусім іншае сэнсава-эмацыянальнае, псіхалагічнае напаўненне.

Зязюля нашага часу не шчасце варожыць, не вяшчуе вялікай дарогі. Яе па-весняму малады голас даносіцца толькі тады, калі згадваецца лірычным героем самы світанак жыцця. У той краіне маленства мажліва ўсё: таямнічасць прароцтва, урачыстасць быцця, туман васільковы ў жыце яшчэ маладым. Голас гэтай птушкі лясной, пачаўшы адлік жыцця, вядзе яго ў адваротным напрамку. Чым больш уваходзіць малы чалавек у свет дачыненняў з чарнобыльскім наваколлем, тым з большай трывогай, пранізлівасцю нясецца "ку-ку".

Ёсць глыбокая логіка і мастацкая заканамернасць у тым, што ад успамінаў пра далёкія гады дзяцінства аўтар пераключае размову на іншае: сённяшні дзень Беларусі. Ад прыватнага лёсу аднаго чалавека да трагедыі нацыі. Вялікая роля ў ідэйна-кампазіцыйным змесце твора маленькага абразка "Ку-ку". Паралельна развіваюцца дзве эмацыянальныя плыні: прамяністая радасць дзяцінства і пагрозлівасць халоднага дыхання смерці. Кожнае праяўленне рухавасці, бесклапотнасці, дзіцячай гарэзлівасці суправаджаецца прадчуваннем хуткай і страшнай катастрофы. Такое выключэнне натуральных, нармальных стасункаў падкрэслена акцэнтуецца і рытміка-інтанацыйным ладам верша. Усё тут заснавана на жорсткім узаемавыключэнні: бяда, а дзеці жывуць сваім неасцярожным, безаглядным жыццём. Чым шчыльней *падганяюцца ў паэтычны рад дзеясловы*, што перадаюць дынаміку дзіцячай душы, тым больш амаральным, нахабным выглядае тое злучнікавае "а", паўторанае з дакладнай размеркаванасцю: на другім радку ад пачатку верша, сутыкнуўшы радасць жыцця з выяўленнем вялікага зла, і на перадапошнім — дзе сышліся ўшчыльную прага жыцця і няўмольная смерць. Рытм жыцця збіўся, захлынулася зязюля недапетым гукам.

Нязмушана пераходзіць мастак ад сцэны да сцэны, ад вобраза да вобраза. Абарванае зязюльчына "ку-ку" праз хвіліну абзавецца балючым плачам-галашэннем: смерць збірае даніну з беларускай будучыні. Працяжны гук птушынай песні пераходзіць у няўцешнае галашэнне, а сюжэт балады ўбірае традыцыйнае для беларускага фальклора вобразнае выяўленне сілы мацярынскага пачуцця праз фантастычнае пераўвасабленне. Усё зрушылася ў гэтым абсурдным свеце: маладзеюць магілы, век надточвае дзецям жанчына-зязюля, а ціхія словы чарнобыльскай калыханкі грымяць над планетай.

Паэт умела карыстаецца гукавой, сэнсавай асацыятыўнасцю. Калыханка, якая вырастае з галашэнняў, становіцца журботным, жалобным звонам над спусцелым, забітым краем, *над выгнанніцкім лёсам чарнобыльскага лю*ду, над балючай слязінкай дзяўчынкі з Палесся.

**Каб нашага гора глыбіні спазнаць**
**Паміж мітусні, драбязы,**
**Не трэба ўсе слёзы Айчыны збіраць...**
**Мне досыць і гэтай слязы.**

Вось і ўзнімаецца горкая доля беларускага краю да маштабаў сусветнай трагедыі, а слязінка дзіцячая становіцца ў беларускага паэта, як і ў знакамітага класіка, вымярэннем маральнага, гуманістычнага здароўя грамадства, планеты.

Некалі М. Багдановіч у маленькай беларускай дзяўчынцы ўбачыў правобраз будучай мадонны, пазней мастак М. Савіцкі напіша свой партрэт беларускай партызанскай мадонны, у паэме С. Законнікава вобраз беларускай мадонны пададзены ў некалькіх выяўленнях: ад дзяўчынкі-паляшучкі з хатулём на спіне, якую выхапіў позірк мастака з вакзальнага натоўпу, да безабароннай марморовай мадонны, над якой учынілі гвалтоўны здзек.

**Красы нязнанай маладое цела**
**Было без галавы,**
**без рук,**
**без ног.**

Менавіта такой сёння бачыцца паэту наша пакутная Беларусь. Зазначым, што мастак дасягае вялікага ўздзеяння на чытача, бадай, зусім адмовіўшыся ад гучна сказанага слова. Але гэта зусім не азначае эмацыянальную аднастайнасць твора. Голас лірычнага героя набывае самую разнастайную вышыню, сілу, танальнасць, але нідзе не ўздымаецца да прамоўніцка-пафасных ці гнеўна-абуральных аратарскіх інтанацый. Наадварот. Найчасцей прамаўляецца слова сцішана, стоена, нават ледзь чутна, пераходзячы на шэпт. Нават пытанні задаюцца роздумна-ціха, адрасаваныя Богу альбо самому сабе.

**Я шэпт пачуў твой:**
**"Літасцівы Божа,**
**Навошта асудзіў мяне на здзек?**
**Чаму маю душу і цела можа**
**Нахабна кожны гвалціць**
**з веку ў век?"**

Рух мастацкай думкі праяўляецца ў рухомасці, пераасэнсаванасці паэтычнага вобраза: дзяўчынка—мадонна—Беларусь—гаротная зязюля. Беларусь — тая птушка, *якая не мае свайго гнязда. Настойліва* вядзе паэт чытача да спасціжэння дзвюх бясспрэчных ісцін: будучыня ў крывіцкага люду магчыма тады, калі той усвядоміць, што трэба віць краіне ўласнае гняздо, будаваць свой нацыянальны дом, пра які столькі марыў, мроіў і сніў незабыўны Я. Купала. Другая не менш важная думка — пра духоўнае адраджэнне. Яно магчыма пры ўмове ўсеагульнага пакаяння, як зразумелі тое немцы, адчуўшы былую віну, як сваю, сучасную. Разам з тым аўтар перасцерагае сучаснікаў ад непапраўнай бяды:

**Шмат ты,**
**люд,**
**награшыў,**
**Не саграшы беззваротна:**
**Толькі не патушы**
**Свечку сваёй душы!**

Вядома, гэта настолькі важна — полымя душы захаваць, што паэт нават зрокава імкнецца акцэнтаваць увагу чытача на ключавым раздзеле. Назва "Свечка" пададзена праз вертыкальнае напісанне слова. Яно ўспрымаецца і як графічнае ўяўленне строгай і гордай свечкі, і як дзейсны фактар эмацыянальнага ўздзеяння на псіхалогію ўспрымання чытача. Гэта толькі агульныя ўражанні ад першага знаёмства з паэмай С. Законнікава "Зязюля".

**Тамара НУЖДЗІНА**

*г. Мазыр*

Анкета "ЛіМа"

***Працягваем друкаваць матэрыялы лімаўскай анкеты.***

***Рэдакцыя прасіла адказаць на наступныя пытанні:***

***1. Што такое "паэзія чыстае красы" ў кантэксце сучаснай беларускай літаратуры — васілёк, які прыўкрашае ніву, званіца, якая ўзвышаецца над мітуснёй быцця, ці нешта іншае?***

***2. Ці варта сёння творцу думаць пра сваю папулярнасць, і як у цяперашніх варунках дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора?***

***3. Што такое змена пісьменніцкіх пакаленняў? У вас ёсць папярэднікі і наступнікі ў літаратуры?***

# АРГУМЕНТЫ І ВОБРАЗЫ

Кожны раз, калі пачынае мусіравацца ідэя паэзіі "чыстай красы", згадваеш Максіма Багдановіча. Нават калі паэт не называецца, калі застаецца своеасаблівай фігурай умаўчання. Для многіх, хто больш-менш уяўляе сабе мастацкі кантэкст творчасці паэта або настойліва прапагандуе адзін аспект гэтай творчасці: "Багдановіч — паэт чыстай красы", — названай ідэі можа быць дастаткова — тым болей, што стаіць за ёй аўтарытэтны літаратурны крытык Антон Навіна. Абстрагуючыся ад канкрэтнага вобраза паэта ("чыстая краса лілеяў, што выраслі ў твані балота, — "Санет" ("На цёмнай гладзі сонных луж балота...") нельга не заўважыць, аднак, што паэт перарастае змадэляваную для яго крытыкай эстэтычную праграму.

У апазіцыі "чыста" эстэтычнае — сацыяльнае, якое часцей за ўсё прысутнічае ў падобных спрэчках, звычайна выпадае з-пад увагі яшчэ адзін аспект: духоўна-этычнае. А без яго няма ні "Мадонная", ні "Пагоні". Без яго Багдановіч застаецца ў парадыгме неакласіцызму — і не больш.

Вытокі літаратурна-крытычных дыскусій аб красе і эстэтыцы паэтычнага слова трэба шукаць далёка ў гісторыі эстэтычнай думкі, ва ўсякім разе — нашмат глыбей, чым нашая славутая дыскусія ў "Нашай Ніве" ў 1913 годзе, інспіраваная Вацлавам Ластоўскім (мне ўжо даводзілася пісаць пра яе ў артыкуле "Апалогія красы" ў мінулагоднім "Нёмане").

Паколькі ўсе аргументы немагчыма выказаць раз і назаўсёды і гэтыя аргументы нараджаюцца ў жывым працэсе пошукаў ісціны, з выпадку лімаўскай дыскусіі аб паэзіі "чыстай красы" хачу звярнуць увагу на адзін эпізод нашай гісторыі літаратуры.

У 1914 годзе ў яраслаўскай газеце "Голос" Максім Багдановіч друкуе рэцэнзію на славутую паэтычную кнігу Тэафіля Гацье "Эмалі і камеі" ў перакладзе на рускую мову Мікалая Гумілёва.

Тэафіль Гацье — французскі паэт XIX стагоддзя, пачынальнік літаратурнай школы "парнасцаў". Хоць вакол альманаха "Сучасны Парнас" (1866—1876) аб'ядноўваліся розныя паэты — ад Гацье і Леконта дэ Ліля да Бадлера, Верлена і Малармэ, аднак вядучай ідэяй "парнасцаў" заставаўся панэстэтызм. Крыху раней Гацье ў прадмове да аднаго са сваіх раманаў падаў эскіз гэтай ідэі: "Сапраўды прыгожае толькі тое, што нікому не можа служыць: усё карыснае — агіднае..." Так нараджалася ідэя "мастацтва для мастацтва", "чыстага мастацтва", сінонімам якой і выступае "паэзія чыстай красы".

Ужо ў канцы стагоддзя ў Польшчы з'явіўся маніфест Станіслава Пшыбышэўскага "Confiteor", дзе ідэі, паэтычна ўвасобленыя "парнасцамі", набылі гранічнае, крайняе завастрэнне: "Мастацтва не мае ніякай мэты, яно само для сябе, яно — абсалют... А таму, паколькі яно абсалют, мастацтва не можа быць ні ў якіх цуглях, не можа быць на паслугах якой-небудзь ідэі, яно — вышэйшая ўлада, першасная крыніца, з якой нарадзілася ўсё жыццё. Мастацтва стаіць па-над жыццём..."

Са сваім сучаснікам Пшыбышэўскім у Багдановіча няма прамой ці тыпалагічнай сувязі. Але з літаратурнай практыкай "парнасцаў" — даволі плённая і шмат у чым вызначальная. Гацье і іншыя "парнасцы" для нас вельмі пазнавальныя праз Багдановіча: гэта захапленне формай і патрабаванне дасканаласці формы як абавязковай умовы мастацтва, яснасць і дакладнасць вобразнасці, пераважна прадметнай, скульптурная пластычнасць антыкі і ўвогуле захапленне антычнай культурай, урачыстасць александрыйскага верша. Але самы, напэўна, фенаменальны прыклад сувязі паэзіі Багдановіча з творчасцю "парнасцаў" — гэта "Рамане" ("Зорка Венера ўзышла над зямлёю...") як парафраза верша Сюлі-Прудома "Ідэал", апошнюю страфу якога беларускі паэт прыводзіць у якасці эпіграфа да свайго твора, прычым па-французску, у арыгінале, хоць верш Сюлі-Прудома быў вядомы на той час у перакладзе на рускую мову Інакенція Анненскага:

**Когда бледней и чище звезд эфира**
**Она взойдет средь чуждых ей светил, —**
**Пусть кто-нибудь из вас, последних мира,**
**Расскажет ей, как я ее любил.**

Пры ўсёй прыхільнасці да паэзіі "парнасцаў" Багдановіч не быў бяздумным апалагетам яе мастацкіх ідэй, успрыняў яе як складаную гісторыка-літаратурную з'яву. У згаданай рэцэнзіі (напісанай па-руску) Багдановіч бачыць галоўную вартасць паэтычнай кнігі Гацье "в изяществе отделки всегда безукоризненного стиха, в изысканности выражений". Але пры гэтым ён звяртае ўвагу на адзін "убийственный", як ён піша, недахоп: "... то, что в ней искусно, в то же время и весьма искусственно. В ней очень много мастерства и очень мало поэзии".

Мастацкі досвед выдатнага паэта пацвярджае шматмерную складанасць творчай з'явы, дзе мае значэнне кожны яе інтэгральны элемент і толькі ў сінтэзе яны могуць даць значны эстэтычны вынік. Хто ведае, ці быў бы такі блізкі нам паэт, калі б не было ў яго гэтага гневу і болю, што парушаюць "чысціню", гармонію светаўяўлення:

**Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,**
**Не давайце чужынцамі быць!**

Водападзел на "чыстых" і "нячыстых" праходзіць зусім не так, дзе яго часам шукаюць.

Культура (і паэзія ў прыватнасці) не прымае супрацьпастаўлення: або (або васілёк, або званіца) — яна ведае сінтэз, узаемаўзбагачэнне: і, і (і васілёк, і званіца). Культуры як увасабленню духоўнага патэнцыялу чалавека супрацьстаяць з'явы іншага характару: гвалт і тыранія, ды заснаваная на страху перад імі кан'юнктура. Ва ўмовах рэстаўрацыі таталітарызму і глабальнага наступу на правы чалавека, калі галоўнымі аргументамі і "вобразамі" паўстаюць дубінка і пуга, антытэза васілёк — званіца наогул губляе сэнс.

**Люба ТАРАСЮК**

# ЭНЕРГІЯ, ЯКАЯ ПАТРАБУЕ ВЫХАДУ

1. Паэзія чыстае красы ў кантэксце сучаснай беларускай літаратуры... Васілёк, званіца ці нешта іншае?.. Ого-го... Калі гэта не пародыя на пытанні сумна вядомага рэферэндуму, то для сур'ёзнай размовы фармуліроўка няўдалая. Што маецца на ўвазе — творчасць асобных паэтаў ці від паэзіі, які сустракаецца ўвогуле ў многіх майстроў прыгожага слова? Можа, падразумяваюцца паэтычныя творы, так ці інакш звязаныя з каханнем, з прыродай, з космасам, у якіх не закранаюцца праблемы палітыкі, вытворчасці, экалогіі, то аб якой званіцы можна гаварыць? Хіба толькі ў надумана-вобразным сэнсе, што менавіта такая паэзія выратуе свет? Але гэта наіўна. Ні прыгажосць паэтычных радкоў, ні ўвогуле прыгажосць, ні памылкі папярэднікаў, на якіх, здавалася б, людзі павінны былі вучыцца, пакуль не набліжаюць выратавальны час. Дастаткова асэнсаваць сённяшнюю рэчаіснасць, асабліва ў апаленай Чарнобылем Айчыне.

Ці можна быць чыстым у брудным жыцці? Як не імкніся прайсціся ў позе артыста балета, усё роўна аб што-небудзь запэцкаешся. На мой погляд, няма ў нашай паэзіі творцаў "чыстага" накірунку, а спроба вылучыць пэўную групу ці некалькі груп з'яўляецца надуманай. Хто ў нас чысты? Леанід Дранько-Майсюк? Прабачце! Так, гэта не састарэлы патэфон, гэта больш вытанчаны, больш дасканалы ў эстэтычным і тэхнічным плане музычны апарат, — няхай спадар Лёня прабачыць за такую вобразнасць, — але і ён стварае музыку з жыцця і аб жыцці, хаця ў ёй хапае ідэалізавана-рамантычнага гучання. Часам чытач, залюляны мелодыяй, высокай і узнёслай, забывае пра такія вось радкі:

**Даволі вярэдзіць раны!**
**І без таго заўважаю —**
**Глядзяць, як на эмігранта,**
**На мяне, калі размаўляю.**

**Адкуль? З якой рэзервацыі?**
**З якой Беларусі такой?**

**Эх, вечная эміграцыя**
**На радзіме сваёй.**

І гэта не адзінкавыя балючыя радкі ў творчасці паэта. А ў празаічных творах сатырычнага накірунку Дранько-Майсюк — рэвалюцыянер, як па форме выказвання, так і ў сюжэтна-тэматычным і ідэйным планах.

Хто там яшчэ чысты? Алесь Разанаў? Ды ў яго філасафічных творах віруе такая рэальнасць, такая глыбіня, такі боль!

Тады хто? Можа, хто з бум-бам-літаўцаў? Толькі яны робяць першыя крокі ў літаратуры і нешта канкрэтнае пра іх казаць пакуль рана.

А ў рэшце рэшт пра што размова? Няма ніякай паэзіі "чыстай красы". Ёсць паэзія, прыгожы, узнёслы від літаратуры, які ствараюць індывідуальнасці з іх непаўторнымі творчымі прыёмамі, манерамі і бачаннем рэчаіснасці.

2. Папулярнасць беларускамоўных твораў сёння набліжаецца да нулявой адзнакі. Аб прычынах гаварыць няма сэнсу, яны навідавоку. Нават пры камуністах былі больш спрыяльныя ўмовы для папулярнасці і славы. Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Кандрат Крапіва, Пімен Панчанка, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч... Гэтыя і шэраг іншых імёнаў былі добра знаёмы не толькі ў інтэлігенцкіх колах, а і ў народных масах. А сёння? Сёння — крызіс. Магчыма, нешта зменіцца з цягам часу, і людзі зноў павернуцца тварам да творцаў. Магчыма...

І ўсё ж пульс прашчупваецца: ёсць, няхай сабе міззэрная, папулярнасць. Супрацоўніцтва сучасных беларускіх паэтаў — шмат сярод іх маладых — з кампазітарамі і спевакамі дае плён. Гучаць беларускае слова ў песнях. А ў песнях. А ў полькі Леаніда Дранько-Майсюка і Ігара Лучанка ўвогуле шчаслівы лёс: яна набывае народнае гучанне. Радуюць таксама сваёй таленавітай плыннью барды. Папулярнасць праз музыку і песню, думаецца, мае перспектыву.

Але як зрабіць, каб кніжная прадукцыя даходзіла да чытача? Смехатворныя тыражы ў тысячу экземпляраў сёння не знаходзяць збыту. Калі прыкінуць, колькі адных толькі бібліятэк (дзяржаўных, прафсаюзных, школьных і г. д.) у краіне, то такога тыражу павінна быць мала. Усё ўпіраецца ў грошы, якіх катастрафічна не хапае. Менавіта па гэтай прычыне знаходзяцца ў цяжкім становішчы і нашы вядомыя выдавецтвы.

У свой час супрацоўнік выдавецтва "Мастацкая літаратура" Ганад Чарказян выступіў з крытычным артыкулам, у якім абвінавачваў дырэктара выдавецтва Серафіма Андраюка ў дрэннай арганізацыі дзейнасці іх структур. Напэўна, ёсць пэўныя пралікі ў кіраўніцтва, але і аддзел маркетынгу, дзе працуе Ганад Бадрыевіч, не можа пахваліцца нейкімі новымі формамі сваёй працы. Пераканаўся ў гэтым, калі ўзніклі праблемы з маёй кніжкай "Родны маcярык". Пакуль сам не абзваніў і не аб'ездзіў "Белкнігу", бібкалектар і іншыя арганізацыі, амаль увесь тысячны тыраж ляжаў "мёртвым грузам" на выдавецкім складзе. Дык, можа, ёсць сэнс кіраўніцтву выдавецтва падумаць над тым, каб з'явіліся сапраўдныя прадстаўнікі маркетынгу і менеджменту, якія б ініцыятыўна, зацікаўлена, аператыўна званілі, ездзілі, пераконвалі, шукалі сродкі, прабівалі, здавалася б, непрабіўныя "сцены", супрацоўнічалі з аўтарамі з мэтай папулярызацыі іхняй творчасці?

Эфектыўным у нейкай ступені, напэўна, сёння з'яўляецца "хаджэнне ў народ": усемагчымыя вечарыны, прэзентацыі кніг з аднчасовым продажам як у гарадах, так і на перыферыі, дзе цяга да роднага слова яшчэ не згасае ў такіх маштабах, як, скажам, у сталіцы.

Многае могуць зрабіць тэлебачанне і радыё. На жаль, яны ў гэтым плане асобай актыўнасці не праяўляюць. Да таго ж кульгава-рынчная адносіны засмечваюць мазгі некаторым рэдактарам. Сёння, калі ў такім крызісным стане роднае слова, трэба было б праявіць салідарнасць, ваяваць за беларускасць, а не шукаць выгаду за кошт калег. Чаму б не расказваць супрацоўнікам рэдакцыі літаратурных і мастацкіх праграм радыё пра змест часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Беларусь" і іншых? Шанцавала нейкі час "Вожыку", але і яму перагарадзілі шлях да слухачоў. А матывацыя шчырых на словах беларусаў наступная: цяпер за рэкламу трэба плаціць! Даражэнькія супрацоўнікі радыё, ці вы аглухлі, ці вы страцілі зрок і не ведаеце, як лёгка цяпер жывецца беларускамоўным выданням? Дзе ў іх тыя грошы? Не рабіце позу страуса — як бы не задыхнуліся!

І самае важнае сёння — змаганне за будучыню беларускай мовы і дзяржаўнасці, як гэта робяць Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Рыгор Барадулін і іншыя літаратары. Будзе жыць мова, заквітнее — будзе і папулярнасць у беларускамоўных твораў.

3. Наконт змены пакаленняў. Тут, мне здаецца, усё залежыць ад таго, як спрацоўць крытыкі і іх фантазія. Ярка выражанай змены на працягу апошніх гадоў не было. Праўда, са з'яўленнем "Тутэйшых", а цяпер бум-бам-літаўцаў робяцца спробы супрацьпастаўлення творчасці "сапраўдных" літаратараў і літаратараў, якія тварылі ў савецкую эпоху. З'явілася суполка "вольных літаратараў". Але ва ўсім гэтым вельмі многа дэкларатыўнасці, прэтэнцыёзнасці, вялікага шуму з нічога. Хаця падставы, вядома ж, ёсць, бо не ўсё добра ў СП Беларусі, а таксама ў выдавецтвах, якія не надта намагаюцца падымаць "шлагбаум" перад моладдзю, а таксама мяняць стыль дзейнасці суадносна са зменамі ў грамадстве.

І некалькі слоў пра папярэднікаў і наступнікаў. Яны ёсць у кожнага літаратара. Для мяне папярэднікі — усе тыя, хто працаваў у літаратуры да мяне. Хтосьці гарэў полымем, хтосьці свяціўся іскрынкай, іх цяпло і святло бачна і ўлівалася і ўліваецца ў маё сэрца, у маю душу. Наступнікі — гэта тыя, хто пачаў друкавацца пасля цябе незалежна ад узросту. Яны ўздзейнічаюць на псіхіку, выклікаюць то скептычную ўсмешку, то зайздрасць. Многія абганяюць. Іншы раз ахопліае адчай, здаецца, што ты нікчэмны, бяздарны і лепш не браць у рукі пяро. Але як яго не возьмеш, калі ў галаве, у душы віруе, накопліваецца страшэнная энергія, якая патрабуе выхаду.

**Янусь МАЛЕЦ**

## "РОДНАЕ СЛОВА", N 6

"Покліч душы і памяці" — так называецца літаратурны партрэт Г. Далідовіча, напісаны А. Андруковічам, а Л. Савік штрыхі да творчага партрэта М. Гіля назвала "Вяртацца не так і далёка...". Змешчаны заканчэнне разваг М. Яфімавай пра творчасць В. Віткі "Сее сонцам свой палетак...". Е. Лявонава ("Каралева жывога слова") расказвае пра творчасць Э. Ажэшкі. Л. Баршчэўскі працягвае знаёміць з нарысамі з гісторыі сусветнай літаратуры. Гэтым разам прапануецца агляд "Літаратура класіцызму".

Т. Шамякіна выступае з артыкулам "Вытокі культуры". "Традыцыйнае жыллё беларусаў" — нарыс А. Астаповіча. У "Анталогіі беларускага раманса" — артыкул В. Скарабагатава "Антоні Генрык Радзівіл" і некалькі твораў гэтага кампазітара. Архітэктурная спадчына Гродзеншчыны разглядаецца Т. Габрусь — "Зоркі над Нёманам" (заканчэнне артыкула). У "Гасцёўні" прапанаваны гутаркі з галоўнымі рэдактарамі: часопіса "Маладосць" — Г. Далідовічам, штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" — М. Гілём. У традыцыйнай рубрыцы "Літаратурны ветразь" яе нязменны вядучы М. Скобла прадстаўляе паэтэсу С. Багдановіч. А ў рубрыцы "Песню бярыце з сабою" чакае сустрэча з Я. Навуменкам і асобнымі песнямі, што сталі папулярнымі менавіта ў яго выкананні.

## ТАКІЯ ДЗІЎНЫЯ... АРЭЛІ

Невялікім атрымаўся паэтычны зборнік Вольгі Савасцюк "Арэлі на вясёлцы", адрасаваны дзецям дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Але, думаецца, яны прыйдуцца малечы даспадобы. У творах В. Савасцюк знайшлося месца досціпу, усмешцы, а яшчэ, што немалаважна, пры гэтым яна ўмее гаварыць з хлопчыкамі і дзяўчынкамі як з... дарослымі. У выніку — відочны педагагічны эфект ад вершаў. Ухвальна і тое, што да выхаду гэтага зборніка мае дачыненне Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор", якія задумаў выпуск аднайменнага шматтомнага выдання лепшых твораў пра Беларусь і беларусаў, прадстаўляючы як вядомых пісьменнікаў, так і тых, хто не пісаў па-беларуску, але быў звязаны з беларускай зямлёй. А будучага чытача "Беларускага кнігазбору" трэба выхоўваць ужо зараз. Кніжка ж "Арэлі на вясёлцы", думаецца, акурат гэтаму і паспрыяе.

## "ПЕРШАЦВЕТ", N 7

Гэтым разам на другую старонку вокладкі вынесены партрэт В. Маракова, аднаго з ахвяр сталінізму. Тут жа — яго вершаваныя радкі, датаваныя 1926 годам, што ўспрымаюцца цяпер голасам адтуль, з іншага свету:

І хоць знаю: ніколі не вернеш назад,
Што прайшло, адцвіло і памерла ў палёх,
Толькі сэрца так хоча прасторам сказаць,
Каб ізноў запалілі вясну над сялом.
О, тады з сваіх чулых і палкіх грудзей
Я аддам гэтым нівам палову душы,
Каб гарэў дыяментам залочаны дзень,
І каб вечна прастор красаваўся і жыў!

І нівам, і ўсёй Беларусі аддаюць сваю душу наступнікі В. Маракова, якія і выступаюць на старонках гэтага нумара. З паэтаў прадстаўлены В. Барысюк, Р. Гародка, А. Дзядзінкін, В. Жоўтак, К. Пашкевіч, В. Угрыновіч, А. Дылюк, З. Цехановіч, Л. Прохарчык, з празаікаў — М. Воднева, С. Фралова, В. Песенька, В. Пятроўскія, І. Хадарэнка, В. Хведар.

У "Гасцёўні" змешчаны апавяданне А. Капусціна "Карціна" і вершы М. Аўрамчыка. Раздзел "Повязь" — слова Л. Савік пра У. Дудзіцкага "Паэт апаленай красы" і некалькі вершаў таго, хто апынуўся на чужыне, а затым загадкава пайшоў з жыцця.

Рэцэнзіі Н. Дзівінай "Жыцця ў жыцці мне мала..." ("Заклён на скрутны вір" А. Вялюгіна), В. Корбута "Я люблю таямнічыя шэпты..." (зборнік вершаў членаў літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі клецкай газеты "Верыцца ў лепшае, хочацца марыць..."), А. Петрушкевіч (кніга Р. Пастухова "Судьба"), артыкулы І. Запрудскага "У пошуках alter ego" (да 170-годдзя з дня нараджэння Ю. Ляскоўскага) і І. Лавар "Не ўсё, брат, сонейка, што слепіць вочы" (пераклад камедыі У. Шэкспіра "Утаймаванне наравістай" Я. Семяжона) прадстаўлены ў раздзеле "Крытыка".

У "Жароўні" прапануюцца вершы А. Курэца і быліца П. Місько "Праўда ўся пра бабіна парася".

Паэзія

Алесь ПІСАРЫК



## "КРАМЯНЯЦЬ ЗОРЫ АДРАДЖЭННЯ..."

●

Прадаць душу занадта проста,
Лягчэй, як жужалку забіць.
Няўжо не думаў ты цвяроза,
Што Вольнасць нельга адкупіць?

Чорт на ланцуг душу зашчыміць,
І ты ўжо з чортавай радні.
Забудзеш годнасць, веру, шчырасць,
Забудзеш роду карані.

Да непрытомнасці чужыя
Асядуць думкі ў галаве,
Ускрыкнеш ноччу: "Ці жывы я?
Ці — д'ябал я,
Ці — чалавек?.."

### ЗАРА НАДЗЕІ

*Алегу ЖЫЛІНСКАМУ*

Багаты беднаму не пара?
А годны — годнаму? Як быць?
Пыхлівасці асядзе пара,
А спраў ашчадных — не забыць!

Нішто харошае не ўтоіш,
І як жыццё не завяршы —
Пакінеш тое, што святое,
Пакінеш тое, што з душы...

Між намі безліч прахіндзеяў
Бяздумна згінулі, прайшлі.
Але жыве — зарой — надзея
У нашу годнасць на зямлі!

Крамяняць зоры Адраджэння.
Не прыпыняе час хаду.
Адчуй і ты амаладжэнне
Высокіх дум...

●

Крыж на месцы —
Князеў меч!
Ці не Вячка з нябёсаў імчыцца,
Каб сабой засланіць нашу смерць
І з Пагоняй навек заручыцца?

●

Гасцюем гулка на зямлі,
Не ўсё — бязліка.
Якімі б вёсны ні былі,
А восень — блізка!

Адпалавее маладосць.
Смех адасніцца.
Пакайны дзень — як п'яны госць
На трох масніцах,

Глядзіш, вітаецца з табой,
Сказаць штось хоча.
Але завошта гнеўны боль
Пячэцца ў вочы?

Душой пакутваў і любіў
Адну за тое,
Што з рук яе каханне піў
Сваё, святое?

Сябрам пакінуты даўгі
Крутых папоек?
Каханкам — смелыя грахі
Чужых пакояў?

Вясна як вэлюм апране
У родным садзе —
Развагаю перадыхнеш,
Да сноў прысядзеш.

Так светла, зелена плыве
Вясновы поўдзень!
І не чакаеш, як прарве
Кліч з неба: "Пойдзем..."

●

Крыж пры дарозе — чатыры шляхі,
Ключ да разгадкі сусвету.
Помняць крыжы дабрыню і грахі,
Крылы абломваюць ветру.

Тояць крыжы пры дарозе ўспамін —
Продкаў святую адвагу.
Ім пакланіся, зямлі роднай сын,
Меч завастры за знявагу!

Крыж пры дарозе сівы, нібы дзед,
Мне пра Купалу не схлусіць.
Рэха спытае: "А хто там ідзе?"
Я адкажу: "Беларусы!"

Крыж пры дарозе дабром залачу,
Толькі б адрынуць трывогу,
Толькі б свабоднае сэрца адчуць
І незалежнай — дарогу!

### ПЕРАМОГА ПАЧУЦЦЯЎ

*С. Г.*

"Ад здзеку хочацца памерці!" —
Ірваў самоту дня паэт...
І ён пайшоў, як і намеціў,
Неспадзявана ў іншы свет.

Віно — ракой, бывае, льецца,
І побач — слынныя сябры.
Гаротны час. Гаркліва п'ецца.
Зайшлі ў быліны гусляры.

І толькі памяць пра паэта
Вяртае струн журблівы спеў.
Сябры падпойваюць какетак.
Гудуць! А я сказаць хацеў:

Паглядам шчырым зазваніце
У набалелую душу,
Мне словы добрыя скажыце,
І смерці я не папрашу...

●

Неба, малодзівам поўні залітае,
Слухае грэшныя сны:
Верыць, што наша любоў незабытая
Вернецца ў казку вясны.

Сэрцу ад мары світальнае горача.
Што ж да мяне не ідзеш?
З кім ты цяпер, мая любая зорачка,
Дзіўныя чары прадзеш?

Птахі і тыя —
У пары да раніцы...
Шчырасці ў неба малю.
Не забывай тую сцежку, абранніца,
Дзе ты сказала: "Люблю".

Полымна падае знічка сіротная.
Можа, такі ў шчасця лёс?
Слова дзявочае,
Слова самотнае
Чую ў дыханні бяроз.

Неба, малодзівам поўні залітае,
Слухае грэшныя сны:
Верыць, што наша любоў незабытая
Вернецца ў казку вясны...



Проза

СТАРШЫНЮ сельсавета Сароку Мікалая Пятровіча тэрмінова выклікалі ў вобласць. "І чаго б гэта?" — думаў ён седзячы ў сваім кабінеце на другім паверсе. Бо з тыдзень таму ён быў там на нарадзе, выступаў і нават меў асабістую размову з кіраўніком вобласці Іванам Іванавічам. Таму быў яшчэ на памяці ягоны артыкул у рэспубліканскай газеце, дзе ён якраз напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў расчахвосціў у хвост і ў грыву кіраўніцтва Беларускага народнага фронту. Асабліва дасталося іхняму лідэру, якога ён прапясочыў як мае быць, сабраўшы на таго вялізны кампрамат, у якім, калі чэсна прызнацца, было нямала фактаў са столі.

І хаця Мікалаю Пятровічу ў той час было ўсяго дваццаць пяць год, і ён толькі другі месяц працаваў старшынёй сельсавета, але палітычны нюх яму падказваў, што на бэнээфаўцаў стаўкі рабіць нельга — пралятуць яны, як той тазік па асфальце. І мясцовую іхнюю філію яму ўдалося праўдамі і няпраўдамі спачатку раскалоць, а пасля амаль цалкам і ліквідаваць.

Давялося дзеля гэтага пайсці і на пагрозы, шантаж, нявыдачу зямлі пад будаўніцтва і на звычайныя хітрыкі. Адчуваў, што такія дзеянні калісьці залічацца яму ў паслуговы спіс, толькі трэба набрацца цярпення і чакаць. Не працаваць жа да пенсіі ў сельсавеце! Жыццё людзей пагаршалася з кожным днём, а тут шустрыя бэнээфаўскія мазурыкі прапаноўвалі адным махам скочыць у капіталістычны рай. А ў людзей яшчэ нават і цяпер сядзіць камянём у душы настальгія па былым жыцці. Зусім яшчэ нядаўна, якраз перад выбарамі ў парламент, прыперліся два бэнээфаўскія лідэры на сустрэчу з выбаршчыкамі. Але і тут Мікалай Пятровіч быў на вышыні — спрацаваў на ўсе сто з гакам: імгненна імітаваў рамонт у мясцовым клубе, і тым нічога не засталося, як з'ехаць у іншае месца. Праўда, тут ужо дзейнічаў ён смела, амаль у адкрытую, бо меў афіцыйна-патаемнае распараджэнне з раёна, як дзейнічаць з тымі або іншымі кандыдатамі ў дэпутаты. На той нарадзе, у час перапынку, Іван Іванавіч сам падышоў да яго, пацiснуў руку і каротка распытаў пра жыццё-быццё ў іхнім Зарэччы. Пасля нагадаў пра яго былыя артыкулы ў друку і ў жартаўлівай форме папярэдзіў, што і цяпер спаць у шапку яшчэ рана, бо апазіцыянераў розных масцей, хаця і загналі іх у норы, пакуль пацiху шкодзяць сапраўдным барацьбітам за народнае шчасце. А напрыканцы іхняй кароткай сустрэчы загадкава і шматабяцаюча зірнуў на яго і па-сяброўску паляпаў па плячы. Гэта быў яўны намёк на нешта. Мікалаю Пятровічу падалося, што кіраўнік вобласці чагосьці не дагаворвае, і падумалася, што той хоча зноўку даручыць яму нейкую патаемную акцыю.

І вось гэты нечаканы выклік. Ён не на жарт усхваляваў яго. Але, прыкінуўшы, што і да чаго, Мікалай Пятровіч супакоіўся і ў яго нават нечакана ўзняўся настрой.

А чаго баяцца? Вялікіх промахаў на рабоце не было нават у самыя першыя дні працы механікам у калгасе пасля інстытута. А пасля ўжо, дзесьці праз гады два, яму прапанавалі ўзначаліць сельсавет. І ён згадзіўся: як ніяк, а першая прыступка па кіруючай службовай лесвіцы. Ступіў на адну, замацаваўся, а потым і на другую можна ўскараскацца.

Жонцы, якая працавала ў мясцовай школе, вырашыў пакуль пра свае думкі нічога не расказваць. Вечарам ён толькі папярэдзіў яе, што едзе ў камандзіроўку. Яна не стала ў яго дапытвацца, а толькі папрасіла, каб сёе-тое купіў у горадзе.

Ехаць было няблізка — рэйсавы аўтобус шпарка імчаў яго амаль усю ноч, але затое з самага ранку ён першы трапіў у прыёмную да кіраўніка вобласці.

Той а палове восьмай быў ужо на працы, пра што пачуў ад сакратаркі, маладой і даволі прывабнай дзяўчыны, з пунцова-ружовымі шчочкамі і гарэзлівымі ямачкамі на іх, якія на імгненне з'яўляліся падчас усмешкі.

Мікалай Пятровіч неўзабаве быў у кабінеце. Іван Іванавіч падняўся з-за стала і, выходзячы насустрач яму, прамовіў:

— Рад бачыць цябе, Мікалай Пятровіч! Самы ранні наведвальнік.

— Прама з аўтобуса...

Яны парукаліся.

— Праходзь, прысаджвайся. Я вось таксама амаль з сямі раніцы на працы. Такі, браце, час, што трэба працаваць, інакш — грош нам цана.

Ён зноўку ўсеўся ў сваё мяккае паваротнае крэсла, а Мікалай Пятровіч прысеў непадалёку, за даўжэзны стол.

— А выклікаў я цябе вось па якой справе. — Іван Іванавіч на якую хвіліну змоўк, пасля адкрыў папку чырвонага

Павел САВОСЬКА

# ПАРТРЭТ



АПАВЯДАННЕ

колеру і працягваў: — Мы тут параіліся і вырашылі прапанаваць табе пасаду кіраўніка суседняга з вамі раёна. Што на гэта скажаш?

— Проста і не ведаю... Такая нечаканая прапанова. — Мікалай Пятровіч на імгненне разгубіўся, адчуўшы, як прыемная гарачыня шуганула па грудзях.

— Не буду ад цябе хаваць, што наконт тваёй кандыдатуры была ў мяне кароткая размова з самім, — Іван Іванавіч крутануўся ў сваім крэсле і паказаў рукою на партрэт.

— Ці пацягну я на такой пасадзе? Мо ёсць больш вопытныя кандыдаты?

— А то як жа! Кандыдатаў хапае. Яны ёсць, былі і будуць. А ты што — спалохаўся?

— Ды не... А што з былым кіраўніком?

— З ім здарылася бяда — знайшлі павешаным у лесе. Яшчэ ідзе следства, але вырысоўваецца вельмі непрыглядны малюнак: звязаўся з мафіяй, паграз у карупцыі, вось і фінал... Кіраўніцтва рэспублікі робіць стаўку на маладых, таленавітых і ўжо заявіўшых пра сябе людзей. Так што — прымай раён і працуй. А вопыт — справа нажыўная. З чаго пачынаць — я табе падкажу, а пасля і ў госці пад'еду. Хачу цябе парадаваць — вырашана пытанне і наконт кватэры. Выехаў тут на зямлю абетаваную адзін гараврадпрымальнік, вось трохпакаёўка яго і будзе тваёй. Так што — здавай справы ды прыступай да працы.

— А мой намеснік...

— За яго не хвалюйся, яму паўгода да пенсіі засталося, капаць пад цябе не будзе. І запомні — з гэтай хвіліны ты вертыкальшчык, і гэтым усё сказана. Уляда — неабмежаваная, але ў рамках Канстытуцыі. Праўда, у жыцці бываюць сітуацыі, калі дзеля поспеху справы можна сёе-тое і парушыць. Усёк?! Нягледзячы на тое, што мы заключылі доўгачаканую дамову з Расіяй, абставіны ў рэспубліцы складваюцца даволі складаныя. Мы павінны палепшыць жыццё народа любымі сродкамі. Падкрэсліваю — любымі! Сам, — ён са спалохам хітнуў галавою на партрэт, — казаў нам пра гэта на вузкім пасяджэнні.

— Але ж пасада мая выбарная...

— Выберуць, нікуды не дзенуцца. А пачынай са скарачэння сваіх упраўленцаў. Іх там развялося — не злічыць. Рыба, як сам ведаеш, загнівае з галавы, яе і трэба ў першую чаргу аздаравіць. І з катэджамі разбярыся — растуць у тваім раёне, як грыбы... І яшчэ хачу папярэдзіць, наконт патаемнага кантролю за ўсім і ўсімі. Тут у адным з раёнаў быў выпадак, калі міліцыя затрымала звычайнага жабрака-бомжа. Той дзе трэба і не трэба тыцкаў свой нос, ды ўсё падслухоўваў і запісваў. Затрымалі, давай дапытваць, а той — ні слова, ды яшчэ пасміхаецца. А ў міліцыі на такое свая метода — давай дубасіць. Але і жабрак трапіўся не лыкам шыты — пачаў іх размазваць па сценцы. Гукнулі падмогу, а ён — плясь на стол пасведчанне капітана КДБ. Усёк?! Вось так. Яго вока, — ён знoўку крутануўся і паказаў рукою на партрэт, — не спіць ні днём, ні ноччу! Але ты не хвалюйся: галоўнае — не загрымець бы нам пад фанфары!.. І пару слоў пра мафію. Пры рыначных адносінах яна была, ёсць і будзе. Праводзім і мы з ёю барацьбу. Але трэба ведаць, што і там працуюць людзі з галовамі і дыпломамі. І пагрозы будуць, і подкуп, і шантаж, і ўсё іншае. Тут — не мне цябе вучыць, тым больш, што раён твой прыгранічны. Я нядаўна чытаў успаміны былога мэра Парыжа. Дык той піша — у свой час яму ўдалося так паставіць справу ў горадзе, што сама мафія працавала на яго.

— Няўжо падаткі з яе браў у гарадскую казну?

— Хто яго ведае. Праз які годзік наладзім табе паездку ў Францыю, знойдзеш яго і выпытаеш. А што? Нам цяпер у капіталістаў трэба вучыцца... І наконт твайго працоўнага дня скажу: калі-нікалі папрацуй, на карысць справы, да трэціх пеўняў. Я гэта к таму, што аднойчы затрымаўся, а дзесьці так а першай гадзіне ночы званок ад самога... Карацей кажучы: намотвай на вус — спатрэбіцца. Узрост твой спрыяльны для кар'еры, а сам робіць стаўку на маладых ды таленавітых. Вось і ўсё. — Іван Іванавіч падняўся з-за стала. — Поспеху табе і ўдачы!

Дадому прыехаў познім вечарам. Калі расказаў сваёй Валянціне пра новую пасаду, тая спачатку здзівілася, а потым сказала:

— Дзе ж ты ўправішся з цэлым раёнам, ды яшчэ ў такі нялёгкі час!

— Людзі ж працуюць...

— У цябе ж вопыту — кот наплакаў. А ты зірні навокал: калгасы развальваюцца, заводы стаяць...

— А дамова з Расіяй? Гэта табе што?

— Дамова на паперы. Колькі ўжо было падпісана дамоў, а што толку?

— Дык мне што — адмаўляцца?

— Не ведаю. Хаця б намеснікам папрацаваў, уведаў раён і людзей. А так... Паспрабуй, — яна ўздыхнула, — але будзь асцярожным, бо могуць так падставіць, што пасля не адмыешся.

Але калі пачула пра трагічны лёс папярэдніка, жонка не на жарт спалохалася.

— І ты сам лезеш у такую пятлю? Мафія цяпер мае такую сілу! З ёй ніхто не справіцца, яна ўсюды мае сваіх людзей!..

— А трохпакаёвая кватэра? — ляснуў ён апошнім козырам з жыццёвай калоды.

— Няўжо табе не надакучыла выграбаць попел з грубкі?

— Паабяцалі даць праз годзік-другі, а зняць цябе могуць і праз паўгода.

— Тут ты праляцела. Трохпакаёўка ўжо чакае!

Парашылі: жонка дапрацуе ў школе да летніх канікулаў, а ён пакуль пажыве адзін у той трохпакаёўцы. Пажыве нядоўга — канчаўся прахалодны, са снегам красавік.

Праз тыдзень Мікалай Пятровіч пераступіў парог свайго новага кабінета. Ён быў прасторны, светлы і ўтульны. Адразу ж кінуўся ў вочы партрэт самога, які, здавалася, наскрозь свідраваў яго сваімі пранізлівымі вачыма. Мікалай Пятровіч, як зачараваны, некалькі хвілін моўчкі глядзеў на знаёмы твар, і не мог зварухнуцца з месца. І тут, у дадатак да ўсяго, ён выразна пачуў: "Я тебе не икона. Садись и работай!"

Мікалая Пятровіча кінула ў дрыжыкі, у яго імгненна ўспацеў лоб, і ён на паўсагнутых нагах, утуліўшы галаву ў падлогу, нясмела пасунуўся да свайго крэсла.

Праз які час ён ачомаўся і супакоіў сябе тым, што ўсё гэта яму падалося. Такое бывае, штосьці падобнае на галюцынацыю, пра гэтую з'яву ён аднойчы прачытаў у часопісе.

Пачаў перабіраць добры стос папер, падрыхтаваных сакратаркай, але на душы было трывожна і мутарна.

Новая ягоная кватэра прыйшлася яму даспадобы. Ён пабываў там разам са сваім намеснікам — Сяргеем Паўлавічам. Гэта быў паўнаваты мужчына ў вялікіх чорных акулярах і з добра пасівелымі скронямі. Пасля гаворкі з ім Мікалай Пятровіч з жахам зразумеў, што ў параўнанні з сельсавецкімі турботамі яго новыя клопаты — гэта неба і зямля. Але ж трэба было з чагосьці пачынаць.

На наступны дзень ён сабраў у актавай зале ўсіх сваіх упраўленцаў — пачынаючы з прыбіральшчыц і заканчваючы першым намеснікам, пазнаёміўся з усімі і адразу ж заявіў пра будучае скарачэнне. Па зале пракаціўся прыглушаны незадаволены гул, але Мікалай Пятровіч тут жа ўсіх папярэдзіў, што на вуліцы ніхто не апынецца — усе будуць працаўладкаваны. Ды гэта мала каго супакоіла. Асабліва нерваваліся жанчыны: ведалі, якое беспрацоўе пануе ў іх невялічкім гарадку.

Мікалай Пятровіч зразумеў, што калі ён цяпер чымсьці такім незвычайным не асадзіць сваіх супрацоўнікаў, то пасля цяжка будзе з імі працаваць. Мільганула ў галаве адна цікавая задумка. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Калі не жадаеце скарачацца па добра вядомых вам правілах, то давайце правядзём лёсаванне.

— Дык гэта што — выцягнуў кароткую саломінку і на вуліцу? — усклікнула паўнагрудая, чырванашчокая кабета. — Горш не прыдумаеш!

— Чаму ж гэта кароткую? — Мікалай Пятровіч зноў усміхнуўся — толькі ёй. Якраз наадварот — доўгую! Згодны?!

— Ага! Не кіем дык палкай! — Гэтым разам азвалася мілавідная бландзінка з першага раду. — Асабіста я згодна на ўсё, толькі не на такія жахлівыя ўмовы!

У зале зарагаталі.

— Ну што ж, калі два варыянты не падыходзяць, то ў мяне ёсць трэці, але, папярэджваю — апошні. Ён патаемны. Заўтра ж апрабуем яго на жанчынах, а пасля — калі будзе станоўчы вынік, то і на мужчынах.

— А ўжо сёння нельга? — спытала ўсё тая ж нецярплівая бландзінка.

— Чаму ж не — можна. Прашу жанчын сабрацца тут жа пасля працы.

Такая заява азадачыла і заінтрыгавала ўсіх. Жанчыны ледзь дачакаліся заканчэння працоўнага дня. Калі пасля шасці гадзін вечара Мікалай Пятровіч зайшоў у залу, усе былі ў зборы.

— Я вас не затрымаю, — прамовіў ён, — праз хвіліну-другую будзе вядома, хто з вас трапіў пад скарачэнне. — Ён на хвіліну змоўк, акінуў быццам вінаватым позіркам спалохана-зацікаўленыя твары жанчын, і сказаў: — У каго з вас бюстгальтары і трусікі блакітнага колеру — тыя пад скарачэнне не падпадаюць.

На імгненне ў зале усталявалася мёртвая ціша. Твары жанчын не здолеў бы апісаць нават вялікі іх знаўца — знакаміты Мапасан. Здзіўленне, страх, разгубленасць і яшчэ бог ведае што панавала на іх.

— У мяне! — парушыў урэшце ціш у чыйсьці голас.

— І ў мяне! — пачуліся насмешлівыя выкрыкі.

— А дзе будзем правярацца? — спытала прыгожая бландзінка, калі пацішэла ў зале.

— У маім кабінеце, — адказаў Мікалай Пятровіч. — Чакаю прэтэндэнтак праз пяць хвілін.

І выйшаў, пакінуўшы ашаломлена-разгубленых жанчын у зале.

У добрым настроі зайшоў ён у кабінет і, зірнуўшы на партрэт, ажно падміргнуў яму, з весялосцю ў голасе прамовіўшы: "Здарова я іх ачмурыў!" Ды сталёвы позірк вачэй з партрэта ў адно імгненне сагнаў з твару ўсмешку. І не паспеў Мікалай Пятровіч зрабіць некалькі крокаў, як зноўку пачуў знаёмы голас: "Ты что — обалдел, или в Новинки захотел?"

Толькі гэты раз яму падалося, што голас зыходзіў з яго самога, а потым ужо рэхам каціўся па кабінеце. І ён спахмурнеў. У кабінет да яго так ніхто і не зайшоў. "Вось і добра, — падумаў, — пажартавалі і досыць, хай ведаюць, што цацкацца з імі я не буду".

Нейкую гадзіну ён яшчэ працаваў, а потым пешшу пабрыў дадому. Пасля вячэры прылёг на раскладанцы і пачаў думаць пра заўтрашні дзень. Задумаў са сваім намеснікам пачынаць знаёмства з раёнам. Парадаваўся, што ягоны папярэднік паспеў прыдбаць цуда-аўтамабіль — новенькі джып з двума вядучымі мастамі. Для іхніх дарог — ідэальны транспарт... Але думкі зноў вярталі яго да партрэта. Калі так і далей будзе, то можна і напраўду розум страціць ды загрымець у тыя Навінкі. Хоць ты да псіхіатра ідзі...

Назаўтра выехалі а восьмай гадзіне раніцы. Вырашылі з намеснікам пабываць у самым адстаючым калгасе, які быў далекавата, за ракой, у глухім забалочаным месцы. Шафёру было гадоў сорак, той усю дарогу маўчаў і толькі зрэдку адказваў на пытанні Сяргея Паўлавіча.

Адразу ж за горадам, быццам сярэднявечныя замкі, паўсталі катэджы. Яны, розных фасонаў і памераў, ганарліва пазіралі навокал і быццам хваліліся адзін перад адным: "Бачыш, які ў мяне дах?" Польская чарапіца васемнаццатага стагоддзя". — "Падумаеш — здзівіў! — Мой дах — з ацынкаванага ліста, вечны!" — "А мае чатыры вежы-байніцы — з пазалочанымі купаламі! Гэта вам што-небудзь гаворыць? А зірнулі б вы на маю ўнутраную аддзелку і ўбранства — адразу лопнулі б ад зайздрасці: паркет, мармуровыя залы, басейн, сауна, два патаемныя бары, шыкоўная спальня ва ўсходнім стылі і пяць туалетаў. А які запас далікатэснага замежнага харчу — на пяць год хопіць. Прасвідраваная скважына падае мінеральную ваду ў адну з вежаў, ды прыносіць немалы даход гаспадару..."

"Вось імі і трэба будзе заняцца", — падумаў Мікалай Пятровіч, пазяхаючы ў руку.

З шашы машына збочыла на калдобістую гравійку. Хаця і падкідвала, але можна было яшчэ трымацца. А калі ўзбіліся на лясную дарогу, то тут давялося нацярпецца. Але джып выпаўзаў з такіх ямін, дзе звычайная легкавушка даўно б сядзела па фары ў гразі.

Урэшце паказалася невялічкая вёсачка. "Калгас "Светлы шлях" — паспеў прачытаць Мікалай Пятровіч на запэцканай гразёю нахіленай шыльдзе. — Святлей шляху, якім ідзе гэты калгас, не бывае, — прамовіў Сяргей Паўлавіч і ўздыхнуў.

У аднапавярховай будыніне канторы калгаса ў нехлямяжым кабінецiку ім пашчасціла застаць старшыню калгаса. Мікалая Пятровіча непрыемна ўразіў знешні выгляд старшыні: той быў няголены, спахмурнелы, у добра паношаным карычневым пінжаку.

"Можа, з пахмелля," — мільганула была думка. Але дарма — старшыня быў цвярозы.

— Што такі спахмурнелы, Глеб Іванавіч? — спытаў Сяргей Паўлавіч. — Вось новы кіраўнік раёна да цябе прыехаў. Чым парадуеш, якія праблемы?

— Праблем мора. Адзіны трактар на хаду, а пасяўная — на носе...

— Што ж так? — спытаў Мікалай Пятровіч.

— А як вы думалі? Што было — сваё адпрацавала... А за тое, што здалі летась дзяржаве па смешных цэнах, да гэтай пары не атрымалі.

— А падсобнымі промысламі не думалі заняцца?

— Чым тут узбагацееш? — пачухаў патыліцу старшыня. — Хіба што лапці плесці? Але ж дзед Кузьма не пойдзе да нас — сваю адкрыў фірму.

— А ён што — пляце лапці? — здзівіўся Мікалай Пятровіч.

— Другі год. Тут амерыканец адзін прыязджаў, сам з мясцовых, то купіў у яго ажно дзесяць пар. Па сто долараў адваліў за пару. І дзед Кузьма імгненна стаў мільянерам. Самі прыкінце: на нашы — дванаццаць мільёнаў адхапіў. Паклаў іх у банк і кожны месяц мае па паўмільёна чыстага прыбытку, ды яшчэ пенсія.

— Можна яго ўбачыць?

— А то як жа! За вёскай жыве, хата пры лесе. Я вам пакажу.

Дзеда Кузьму яны якраз засталі за працай, але плёў той не лапці, а кошыкі. Высокі, паўнаваты, з сівой барадкай і жвавымі сорнымі вачыма.

— Дзед Кузьма, — з весялосцю ў голасе прамовіў старшыня, — прымай гасцей — новага кіраўніка раёна з намеснікам.

Дзед Кузьма з кожным павітаўся за руку і прамовіў:

— Прысаджвайцеся, людзі добрыя. З якой нагоды да мяне прыехалі?

— Цікавімся наконт лапцей, — пачаў Мікалай Пятровіч, — кажуць, што ў вас яны добра атрымліваюцца. Вось і хочам параіцца — можа, у калгасе невялікі цэх адкрыць, як думаеце?

Дзед Кузьма хітравата ўсміхнуўся.

— Ведаю, — куды хіліце. Я ж даўно старшыні казаў — самая пара плесці лапці, бо надыдзе час — будуць яны нарасхват. Да гэтага ідзём, асабліва пасля падпісання такой шкоднай дамовы з Расіяй.

— Чаму ж шкоднай? Запрацуюць заводы, будзем гандляваць з блізкай суседкай.

— Яно так... Але ж маскалі найперш сваю выгаду шукаюць у гаротнай Беларусі. Абдзяруць нас, як ліпку, вось убачыце. У мяне пяць класаў і восемдзесят пяць год за плячыма і то разумею — у сваю хату чужынца пускаць нельга. Мой прапрадзед расказваў, што калі расейскія войскі ў дванаццатым годзе гналі французаў, то так здзекаваліся з мясцовых сялян — проста жах. Праўда, цяпер не тыя часы,

(Працяг на стар. 12)

## "ЛУТАВА"



**Фальклорны гурт "Лутава" з вёскі Старая Лутава Лоеўскага раёна створаны ў 1987 годзе, а сёння ў рэпертуары калектыву каля ста песень, прычым сабраны яны на Лоеўшчыне і выконваюцца з захаваннем мясцовых асаблівасцей. Калектыў аб'ездзіў з канцэртамі ўсе суседнія раёны, неаднаразова бываў у адселеных зонах, браў удзел у першым фальклорным фестывалі Беларусі, які праводзіўся ў Пінску.**

*На здымку: фальклорны калектыў "Лутава".*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## "КУПАЛЬСКАЯ КВЕТКА-96"



**Добрым святам сталася свята "Купальская кветка-96", якое прайшло ў пасёлку Бярэзінскім Маладзечанскага раёна. Упрыгожаннем яго былі выступленні лепшых самадзейных калектываў раёна. На свята прыехалі і працоўныя калектывы з Расіі, Малдовы, Украіны, з якімі маладзечанцы падтрымліваюць дзелавыя адносіны.**




*На здымках: на сцэне самадзейныя артысты раёна; каля гандлёвых радоў.*

*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

## КАЛІ СМЕХ — НЕ ГРЭХ

**Чарговая кніга Васіля Ткачова "Смех на прызбе" пабачыла свет не ў дзяржаўным выдавецтве. І нават не ў Гомелі, дзе, як вядома, стала прапісаны пісьменнік, а ў Мазыры. Змест зборніка склалі гумарэскі і "вясёлыя сітуацыі". Гумарэскі — пра самыя розныя моманты з нашага жыцця: у нечым смешныя, у чымсьці недарэчныя, а часам варты і сатырычнага выкрыцця. А вось "вясёлыя сітуацыі" — гэта па сутнасці дакументальныя запісы, аб'яднаныя назвай "Смех на прызбе", паколькі ў асноўным пачуты з вуснаў вяскоўцаў.**

## ПАЧАТАЕ МАРНА НЕ ПРАПАДАЕ

**Доўгім быў шлях да выхаду ў свет "Руска-беларускага слоўніка скарачэнняў". Выдавецтва "Навука і тэхніка" планавала яго выпуск яшчэ ў 1990 годзе, а з'явіўся ён літаральна днямі, у двух аб'ёмных тамах. Што ж, памер выдання апраўданы. На сучасны момант у рускай і беларускай мовах функцыяніруе звыш 20 тысяч абрэвіятур актыўнага выкарыстання. Гэта ў многім спецыфічная лексіка, таму пры перакладзе яе ўзнікаюць цяжкасці. У такім разе і прыйдзе на дапамогу згаданы слоўнік, што разлічаны на масавага чытача. І не ў апошнюю чаргу — на работнікаў навукі, друку, выдавецтваў. Прынясе ён карысць і настаўнікам, студэнтам...**

Віншуем!

НА ТРАЕЦКАЙ гары — цішыня: Вялікі тэатр завяршыў свой чарговы сезон, развітаўшыся з публікай аж да восені. Але — як у старой песні — "не верце гэтай цішыні". У тэатральным гмаху на Траецкай працягваецца размежаванне-афармленне-вызначэнне двух цяпер юрыдычна самастойных творчых калектываў: Нацыянальнай акадэмічнай оперы і Нацыянальнага акадэмічнага балета пад крылом аб'яднання "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета". У тэатральным гмаху прадаўжаецца нябачнае жыццё вечнага і непадзельнага духу творчасці, які вабіць натхнёныя сэрцы, яднае таленты, сілкуе ўяўленне кожнага, хто нават незнарок успамінае абрыс хрэстаматыйна вядомага палаца музаў. Здаецца, і ў міжсезонны зацішак па яго мудрагелістых закулісных калідорах кружляюць карагоды сцэнічных вобразаў пад нячутны акампанемент оперных нядолю, і подласць і шчырасць людскую ў непрыкметны бязважкі пыл. І зноў і зноў прыходзяць у гэты свет людзі, каб спасцігаць яго законы, каб спазнаваць радасць жыцця, атруту здрады, навуку няволі, хуткаплыннасць вясны... Каб ўслаўляць хараство і з лёгкім іранічным прыжмурам пазіраць на спрадвечныя нягоды, якія будуць, пакуль жыве чалавек...

Мабыць, гэты лёгкі іранічны прыжмур адчула я ў спалучэнні быццам бы несспалучальных слоў — "народны трылер", што зрабілася падзагалоўкам балета. І таму захацелася ў цэлым большай лёгкасці ў афармленні самога відовішча (каб не сказаць грацыі "чорных" камедый). Ад лёгкай усмешкі дэкларадаваныя ў спектаклі глыбінныя народныя этычныя і эстэтычныя нормы, вечныя на ўсе часы, не страцілі б сваёй чысціні, пераканальнасці. Белыя апранахі дзейных асоб, якімі ўвогуле часам злоўжываюць стваральнікі спектакляў "пра беларускае", у спалучэнні з аскетычным адчула вялікую прыязнасць да яго лубочнай чысціні, да спакроўленасці з народнай беларускай пластыкай. Мяне ўсцешыла ўхвала расійскіх крытыкаў, якія назвалі яго "таленавітым балетам на музыку таленавітага кампазітара". І мне проста не хочацца ўсчынаць спрэчку з апанентамі: бо колькі б ні было зроблена заўваг, колькі б ні было адзначана недахопаў (а як жа без іх, тым больш у эксперыментальнай і аператыўнай працы дэбютантаў!), я захаваю ўдзячнасць стваральнікам новага. Яны працавалі з любоўю да балета і з жаданнем навучыць любіць мастацтва балета ўсіх тых, хто мабыць ставіцца да яго спажывецкі. Давайце любіць балет такім, які ён ёсць, — тады будзе лягчэй заўважаць недахопы творцаў і... лягчэй іх дараваць.

Што за дзіўныя слоўны пасаж? — падумае чытач. Нічога дзіўнага. Відаць, я спрабую рэалізаваць урокі любові да балета, якімі далікатна прасякнута ўся педагагічная, творчая, даследчыцкая, журналісцкая

# ВУЧЫЦЕСЯ ЛЮБІЦЬ БАЛЕТ!

### СЛОВА З ДОБРАЙ НАГОДЫ

арый, уверцюр, інтрадукцый, рытмічных балетных варыяцый і характарных танцаў...

І ўспамінаецца, як яшчэ ўвесну пазнаёміліся сталічныя гледачы з прэм'ерай аднаактовага балета "Кругабег". Праца кампазітара Алега Залётнева, лібрэтыста Юліі Чурко, якая была і сааўтаркай харэографа-пастаноўшчыка Уладзіміра Іванова, не засталася па-за ўвагай друку. Водгукі былі розныя: ад зычлівага вітання да непрыняцця гэтага даткліва і крохкага дзіцяці творцаў-дэбютантаў, у нейкім сэнсе першынца, скажам так, "этнахарэаграфічнага" мастацтва на сцэне акадэмічнага тэатра.

Вядома, былі ў гэтага твора папярэднікі: "Салавей" М. Крошнера, "Князь-возера" В. Залатарова, "Выбранніца" Я. Глебава, напрыклад. Але мой малады ў параўнанні з тэатральнай гісторыяй глядацкі вопыт даў магчымасць успрымаць прэм'еру "Кругабега" без надакучлівага тла ранейшых уражанняў.

Я ведала, што наша знаная даследчыца мастацтва і майстэрства харэаграфіі, педагог, практык, журналіст і крытык Ю. Чурко, досыць перабарліва праштудзіраваўшы збор беларускіх балад, знайшла ў іх некалькі сюжэтаў для пастаноўкі. Знайшла яна і кампазітара, здатнага падпарадкоўваць харэаграфічным задачам, аператыўна і ярка працаваць у "зададзеным рэжыме", з арыентацыяй на пэўны хранаметраж, на пэўны драматургічна-вобразны канфлікт і эмацыянальную атмасферу канкрэтнага сцэнічнага эпізода. (У А. Залётнева талент спалучаецца з каштоўным досведам працы ў кіно, у радыётэатры, з рэжысёрамі драмы, дзе "колькасць музыкі" залежыць ад "колькасці руху" на сцэнічнай пляцоўцы, у кінакадры і г.д., што дыктуецца і спецыфікай балета). Новую працу падтрымаў, як кансультант пастаноўкі, мастацкі кіраўнік і дырэктар Нацыянальнага балета Беларусі Валянцін Елізар'еў.

Мне давялося пабачыць адзін з першых паказаў будучага спектакля ў рэпетыцыйнай зале — без касцюмаў, пад раяль, са шматлікімі прыпынкамі, паўторамі, слоўнымі тлумачэннямі. Ужо тады зразумела, што сцэнічны лёс яго, як і лёс кожнага эксперыменту, складзецца няпроста. Ды зразумела, што эксперымент не будзе марны, і не таму, што кожны дэбют нясе ў сабе ўрок, а і таму, што ёсць у ім іскрынкі шчырасці, таленавітыя знаходкі, ёсць проста любоў да мастацтва.

Потым, на прэм'еры, я параўноўвала тыя, першыя, рэпетыцыйныя ўражанні з відовішчам, "апранутым" у дэкарацыі і касцюмы А. Касцючэнкі, падтрыманым гучаннем аркестра пад кіраўніцтвам дырыжора В. Чарнухі, у артыстычным увасабленні салістаў С. Гарбуновай, Т. Шаметавец, Ж. Лебедзевай, В. Захарава, А. Фурмана, У. Даўгіх... Знаходкі засталіся знаходкамі, што б ні казалі потым аматары скептычных абагульненняў.

Кругабег жыцця, гэты старанны млынар, ператварае ў пыл і чыёсьці палымянае каханне, і часіну маладосці, і жудлівых пачвар, і пакуты зняслаўленага гонару, і сямейную ідылію, і... Адзінаццаць імгненняў-гісторый, праўдзівых і казачных, пазначаюць стваральнікі балета ў праграмцы, запрашаючы больш пільна прыглядзецца да безупыннага бегу падзей, што, вякамі шліфуючца ў памяці народнай, застаючыся жыць у выглядзе немудрагелістых, часам наіўных паданняў з невясёлым, а то й змрочным, канцом. Праўда, народ па натуры — аптыміст. Жыццё працягваецца. Нябачны млынар зноў і зноў перацірае і шчасце, і







афармленнем сцэны робяць задужа сур'ёзнае ўражанне. Зрэшты, мабыць трывіяльныя фінансавыя праблемы не дазволілі разгуляцца мастакоўскай фантазіі на гэты раз.

А драматургічныя знаходкі застаюцца знаходкамі. Вось, напрыклад, балада пра раўнівую маці, якая ўзгадавала сыночка, ды захацела яго з маладою жонкаю разлучыць і... Атруціла незнарок. І легла побач з нерухомым целам сына — і памерла... Такога сюжэта, драматургічна вострага, псіхалагічна пераканальнага, вынаходліва ўвасобленага ў пластыцы, харэаграфіі, у аркестры, — такога "любоўнага трохкутніка" на нашай музычнай сцэне яшчэ не было. Ці яшчэ: балада пра апрыклую жонку. Да фізічнага болю (у музыцы чутная блізкасць да "Быдла" М. Мусаргскага) адчуваеш знясільваючыя крокі гэтай няшчаслівай шлюбнай пары — па граззкай дарозе іхняга жыцця, без кахання, без радасці, з дзвюма драбінамі ў руках, якія з адзінага апрышча ператвараюцца ў прыладу для забойства...

Я неаднойчы бачыла "Кругабег" і ўжо дзейнасць Юліі Чурко. Калісьці на беларускай акадэмічнай сцэне танцавала яна сама. Потым пачала пісаць пра балет: захоплена і захапляюча. З любоўю і даходліва. А яшчэ яна багата паездзіла па Беларусі разам са студэнтамі — па танцавальны фальклор... Не буду называць зараз яе кніжкі, даследаванні, артыкулы — асноўнае ўжо занатавана ў энцыклапедыях. Я проста нагадаю, што Юлія Міхайлаўна — адна з нямногіх у нас, хто піша пра харэаграфічнае мастацтва жыва, з веданнем справы, зычліва. А цяпер вось піша і для балета: пасля прэм'еры "Кругабегу" яна пачала працу над новым лібрэта...

Прыемны збег акалічнасцяў: у заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі прафесара Юліі Чурко зусім нядаўна быў дзень нараджэння. З тых, што адзначаюцца ў календары падзей культурнага жыцця. Віншуем!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*На здымках Віт. АМІНАВА — Сцэны са спектакля "Кругабег".*

# УЛАДЗІМІРУ УРБАНОВІЧУ — 75

**Уладзімір Урбановіч належыць да людзй, якія праз усё жыццё пранесяць адданасць нацыянальнай ідэі і імкнуцца, каб яна авалодала як мага большай колькасцю людзей. Нарадзіўся Уладзімір Аляксандравіч у вёсцы Пузіна цяперашняга Наваградскага раёна, скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут імя Я. Купалы. Настаўнічаў у школах Лідскага, Наваградскага і колішняга Навамышскага раёнаў. У 1952 годзе пачаў працаваць у Валеўскай сярэдняй школе на роднай Наваградчыне. Менавіта на гэты час і прыпадае яго актыўная краязнаўчая дзейнасць. У. Урбановіч стаў адным з заснавальнікаў мясцовага краязнаўчага музея, якому пазней было прысвоена званне народнага. А музей гэты — сапраўды асяродак культуры на вёсцы. Ёсць у ім і многія рэдкія экспанаты. Прынамсі, сабраны кнігі, што пабачылі свет у выдавецкай суполцы "Загляне сонца і ў наша аконца", а таксама выдашні з друкарні М. Кухты і тыя, якія выпускала рэдакцыя газеты "Наша Ніва". У. Урбановіч — аўтар краязнаўчых кніг "Па дарагіх мясцінах" (1964), "Шляхам паэтаў і герояў" (1970), а таксама "Школьны музей. З вопыту работы" (1976).**

**Віншуем Уладзіміра Аляксандравіча з 75-годдзем! Зычым яму здароўя і шчасця!**

# ДА НОВАГА СЕЗОНА



**П'есу Шварца "Голы кароль" паводле казак Г. Х. Андэрсена паставіў у Тэатры юнага гледача маскоўскі рэжысёр Уладзімір Салюк. Яркае сцэнаграфічнае вырашэнне спектакля прапанавала мастачка Ларыса Рулёва, музыку да пастаноўкі напісаў кампазітар Уладзімір Кандрусевіч. Гэтым спектаклем адкрыецца новы сезон тэатра.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Голы кароль".*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

# ВЫСТАВА КІТАЙСКАГА ЖЫВАПІСУ



**Выстава кітайскага жывапісца прафесара Лі Шы-мао прайшла ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Яго жывапіс — гэта традыцыйна кітайскае мастацтва пісьма тушшу. Работы Лі Шы-мао адлюстроўваюць пейзажы і жыццё горада, жывёл і бытавыя сцэнкі.**

**На адкрыцці выставы мастак намаляваў у прысутнасці гледачоў карціну, якая выяўляе сцэну праследавання арлом у гарах статка казуль. Гэту работу ён падарыў беларускаму музею.**

*На здымку: мастак Лі Шы-мао за працай.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

Сярод кніг

# "КЛЮЧ" АД СВІРАНАЎ

Часам і прадугадаць цяжка, як можа адгукнуцца забарона пэўных выданняў. Здавалася б, гэта тычыцца толькі асобных людзей. Так яно, ды і не так... Вось прыклад больш чым красамоўны.

У 1935 годзе ў Вільні пабачыла свет кніга Адама Станкевіча "Да гісторыі беларускага *палітычнага вызвалення*". Пабачыла то пабачыла, ды пры саветах аўтар стаў няўгодны, яго кніга была забаронена, трапіла ў так званы "спецхран". А ў выніку мы на працягу дзесяцігоддзяў амаль нічога не ведалі пра А. Станкевіча, які зрабіў вельмі шмат на ніве нацыянальнага Адраджэння. Цяжка даваўся і даследчыкам жыцця і творчасці Францішка Багушэвіча. Справа ў тым, што амаль да сярэдзіны 60-ых гадоў XX стагоддзя яго радзімай лічыліся Кушляны. І толькі С. Александровіч першым засумняваўся ў гэтым, ён жа першым з нашых сучаснікаў заявіў, што Ф. Багушэвіч родам не з Кулявшчы, а са Свіранаў. Была б кніга А. Станкевіча ў яго пад рукой, ніякай Амерыкі адкрываць не даводзілася б. А. Станкевіч *гэта прама гаворыць: "Нарадзіўся Францішак Багушэвіч у 1840 годзе, але не ў Кушлянах Ашмянскага павета, як дагэтуль думалася, а ў Свіранах".*

Пра ўсё згадвае ў сваёй кнізе "Свіранскія крэскі", выпушчанай толькі што выдавецтвам "Полымя", наш багушэвічазнаўца, краязнаўца, пісьменнік Уладзімір Содаль. Гэта не першае ягонае далучэнне да свету таго, хто ў далёка неспрыяльных умовах заявіў, звяртаючыся не толькі да сваіх сучаснікаў, а і да нас, нашчадкаў: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!".

Раней, таксама ў выдавецтве "Полымя", выйшлі зборнікі нарысаў У. Содаля "Кушлянскі кут" і "Жупранская старонка", у выдавецтве "Народная асвета" пабачыў свет альбом, прысвечаны аўтару "Дудкі беларускай". Былі і іншыя публікацыі, найперш у перыёдыцы. Былі і перадачы па радыё, тэлебачанні.

Тым не менш свайго роду трылогія — "Кушлянскі кут", "Жупранская старонка" і цяпер "Свіранскія крэскі" — у творчасці У. Содаля займае асаблівае месца. Далёка неардынарная яна з'ява і ў нацыянальным літаратуразнаўстве, краязнаўстве. Упершыню так падрабязна расказваецца пра мясціны, што стала прапісаліся ў біяграфіі Ф. Багушэвіча, узнаўляюцца шмат якія рэаліі (часта дагэтуль невядомыя) з жыцця паэта, гаворыцца пра Багушэвічава акружэнне. Але сталася так, што кніжка, якая мусіць стаяць першай, выйшла пазней за іншыя. Што ж, адна рэч, калі аўтар ідзе ўжо ад вядомых фактаў, па-свойму абагульняючы іх, аналізуючы, і куды іншая, калі ён выступае ў ролі першапраходцы, як бы рэканструіруючы тое, што магло быць. Тут не паспяшаешся...

*Акурат гэта і характэрна для "Свіранскіх крэсак"*. Здаецца, нішто больш-менш вартае ўвагі не праходзіць міма позірку У. Содаля. Спакваля вядзе ён чытача туды, дзе праходзіла маленства будучага класіка беларускай літаратуры. Расказвае, як хрысцілі хлопчыка і хто пры гэтым прысутнічаў, знаёміць з яго маці, хоць зрабіць гэта вельмі цяжка, паколькі пра Канстанцыю Багушэвіч з роду Галаўнёў амаль ніякіх звестак не захавалася.

І нават на паходжанні імені Францыск У. Содаль засяроджваецца, што таксама мае пазнавальнае значэнне. А поруч — згадкі пра тагачасны побыт, гаворка пра тых, хто з маленства чуў пра Багушэвіча. Адна з іх — Вэрця Казлоўская, чалавек багатай душы і шчодрага сэрца. Прасочвае У. Содаль і лінію Галаўнёў, называючы пайменна прадстаўнікоў гэтага роду. І, вядома ж, сапраўдных аматараў беларушчыны не могуць не ўзрадаваць шматлікія здымкі, многія з якіх унікальныя. Дарэчы, кніжка з густам аформлена, выдадзена на добрай паперы, што ў наш час не так і проста.

А зроблена ўсё дзеля таго, каб кожны, хто прачытае яе, яшчэ больш палюбіў творчасць Ф. Багушэвіча і зразумеў: "Свіраны... Маленькі лапік зямлі на Вілейшчыне. Маленькі памерам, але багаты, як бачым, гісторыяй, падзеямі".

Цяпер куток маленства Ф. Багушэвіча аказаўся за дзяржаўнай мяжой, знаходзіцца на тэрыторыі Літвы.

Ды хацелася б, каб радзіма песняра не аддалялася і неаддзялялася ад нас. Наконт гэтага завяршэнне кнігі сімвалічнае. Яшчэ падчас наведвання Свіранаў у 1989 годзе У. Содаль знайшоў "кавальскай" работы ключ. Такімі ключамі, мабыць, калісь замыкалі замкі на свірнах". "Мне падалося, — прызнаецца пісьменнік, — што займець гэкі ключ — гэта раўназначна, што мець вечнае права на Свіраны, быць іх гаспадаром, і я прывёз яго ў Мінск... Ключ ад Свіранаў у нас. Цяпер трэба толькі наша жаданне, каб ніколі не зарастала сцежка з Беларусі да радзімы найсумленнейшага беларуса — Францішка Багушэвіча ".

Гэтымі словамі У. Содаль і заканчвае сваю кнігу. Застаецца хіба яшчэ раз дадаць, што і сам ён вельмі шмат робіць дзеля таго, каб гэтая сцяжына ніколі не зарастала. Пацвярджэнне таму і "Свіранскія крэскі". Як і ўся "трылогія" ў цэлым.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ПАРТРЭТ

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

бо рабаваць нас будуць расейскія кампаніі на сучасным узроўні. І з зямлёю нелады — гаспадар ёй патрэбен. А тут яшчэ парцейцы з высокіх чыноў раскралі дзяржаўную маёмасць. Весь і крыўдна, што кіраўніцтва рэспублікі не разумее аднаго — нас ужо абуваюць у лапці...

— Не загаворвайся, дзед Кузьма! — перабіў яго старшыня калгаса. — У былыя часы за такія словы загрымеў бы пад фанфары на ўсю катушку!

— А ты не пужай. Я сваё адбыў — дзесяць год пляжыў лес у Сібіры.

— За што? — пацікавіўся Мікалай Пятровіч.

— У сакавіку сорак пятага адхапіў тэрмін, што хваліў нямецкіх кароў, бо вельмі ж тыя мне прыгляну́ліся: сытыя, гладкія, малака па чатыры вядры давалі. Супрацоўнікі "Смерша" мяне і арыштавалі. У мяне два ордэны і дзесяць медалёў, але і яны не ўратавалі.

— На лапці зірнуць можна?

— Зараз пакажу. — Дзед Кузьма зайшоў у запечак і прынёс дзве пары.

— Вось гэтыя можна нават і ў макрэчу насіць — падшытыя, а гэтыя ўлетку.

Новенькія, бялюткія лапці выглядалі даволі эфектна.

— У іх хадзіць — адно задавальненне, — працягнуў дзед Кузьма. — Адпачываюць ногі, дыхаюць. Не тое, што кірзачы цягаць, або гумовікі — ад іх адна хвароба. Падабаюцца?

— Ды ад іх жа вачэй не адвесці! — шчыра сказаў Мікалай Пятровіч.

— Тады бярыце летнія ў падарунак.

— Вялікі дзякуй, дзед Кузьма.

— Можа, чайку? Ён у мяне на травах, з мядком.

— Не, не! Часу — каб надтачыць!..

Паспелі яны пабываць яшчэ у адным калгасе, і толькі а сёмай гадзіне вечара былі ў райцэнтры. Мікалай Пятровіч рашыў зазірнуць у кабінет — узяць сёе-тое з папер, каб паглядзець іх у дарозе: заўтра — субота, таму меркаваў пад'ехаць дахаты.

Да кабінета падыходзіў спакойна. Пераконваў сябе, што больш страшных слоў не пачуе. Але не паспеў дзверы за сабою зачыніць, як прагрымеў знаёмы бас: "Что?! Навесил лапши на уши старый пройдоха-бэнээфовец? Да еще лапти подарил! Вот сам и будешь в них топать! Про меня вшивые оппозиционеры говорят, что я сем лет быкам хвосты накручивал. Да, было такое. Но я не только накручивал, я и вправлял мозги разгильдяям и проходимцам, ослиная твоя голова!"

Мікалай Пятровіч хацеў штосьці сказаць, ды не змог — голас грымеў далей: "А ты прогноз Павла Глобы читал? Нет?! Он сказал, что мне памятник через три года будет стоять на площади Независимости. И поставлен будет по воле народа. Читать нужно прессу, голубок! Подписан исторический договор, теперь можно подумать и о кабинете в Кремле. А ты с районом управиться не можешь!"

Мікалай Пятровіч стаяў, нізка апусціўшы галаву, быццам школьнік, які адхапіў чарговую двойку. Раптоўна наступіла цішыня. Ён хуценька паклаў неабходныя паперы ў дыпламат і кінуўся на вуліцу.

Ранічкай, калі шафёр прыгнаў машыну з гаража, Мікалай Пятровіч сам сеў за руль: правы меў — у сельсавеце быў старэйшкі "Масквіч".

Вечарам расказаў жонцы пра дзіўны партрэт.

— Ведаю ж, што не можа такога быць, а вось жа голас чую.

— А, можа, той партрэт зачараваны?

— Як гэта?

— Як, як! Я чытала, што хлопец прывёз з Афрыкі маску да павесіў у пакоі. А праз нейкі час пачалі ўсе хварэць. Аказалася, афрыканскія чараўнікі перадалі праз маску хваробу сваіх гаспадароў на чужынцаў.

— Я ж не хварэю, але ўжо ачмурэў ад ягоных размоў!

— А ты пакліч вечарам бацюшку і няхай той пасвенціць партрэт. Мо і зойме яму... І да псіхіатра схадзі, мо ён што параіць. А то, не дай Бог, звіхнешся. Казала ж — не па табе пасада!

— Нагаворыш, што і сапраўды звар'яцею.

— І яшчэ зрабі вось што, — лагадней сказала жонка. Здымі партрэт і агледзь уважліва. Мо там ёсць жучкі-слухаўкі? Мо ў вочы тэлекамеры ўсталёны? А што? Сёння ўсё можа быць...

Пасвяжэлы і падужэлы пасля жончыных бліноў і пацалункаў вярнуўся Мікалай Пятровіч на працу. Без боязі зайшоў у кабінет, распрануўся і пачаў працаваць. І толькі ў канцы дня, калі пачаў складваць паперы на стале, зноўку: "Скажи своей благоверной, что она дура дерибасовская!"

Мікалай Пятровіч ашпарана выскачыў з крэсла і са злосцю зірнуў на партрэт. Страху не было. "Зараз мы ўсё высветлім!" — закрычаў і, не доўга думаючы, рашуча накіраваўся да партрэта. Ды тут нечакана пагрозна-прарэзліва падаў голас тэлефон. Мікалай Пятровіч схапіў трубку, а там прагучала:, "А вот этого делать не следует, будут большие неприятности!"

Ён адчуў, як халадзеюць ягоныя ногі і робіцца цёмна ў вачах. Паволі асунуўся ён на стол, а пасля і на падлогу.

У раённай бальніцы, апрытомнеўшы, закрычаў:

— Здыміце партрэт! Здыміце партрэт!

Заціхаў, трацячы прытомнасць. Прыходзячы ж да памяці, зноў прасіў:

— Здыміце партрэт! Здыміце партрэт!

У чарговы раз ачомаўшыся, пытаўся:

— Ці знялі партрэт? Ці знялі?

— Даўно знялі, — адказвалі яму і хуценька пакідалі палату.

Але ён знуўку і знуўку паўтараў сваё пытанне.

Усіх урачоў і медсясцёр даўеў да адчаю, і яго праз тры дні адправілі ў Навінкі.

# "ЁН МЕЎ ВЯЛІКУЮ ПАТРЭБУ Ў СВАБОДЗЕ"

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

**— І апошняе. У мяне такое адчуванне, што Адамовіч перамог. Не магу ад гэтага збавіцца. Пайшоў туды, адкуль не вернешся пераможцам.**

— Пераможцам каго і чаго?

**— Можа, зразумеў сябе? Ці хоць трошкі сэнс жыцця, калі гэта магчыма? Зразумеў людзей?**

— Ён то зразумеў. Але пытанне ў тым, ці зразумелі людзі яго. Я думаю, што такая катэгорыя, як перамога ў дачыненні да Адамовіча, проста не прымальная. Яна не дастасуецца. Перамога, калі яе прыняць у вашым разуменні, шматзначная і вельмі адносная. Я ведаю, што шмат з таго, што цяпер адбываецца, прадчуваў, нават прадказаў Адамовіч. Ён адчуваў, што ў час гарбачоўскай перабудовы было здабыта вельмі многае, грандыёзнае. Але небяспека для дэмакратыі і для будучыні засталася. Ён патраціў усё сваё жыццё на барацьбу з гэтай небяспекай для чалавецтва. Я маю на ўвазе камуністычна-марксісцкую ідэалогію, потым ядзернае цемрашальства, процістаянне з капіталістычным светам. З усім гэтым ён актыўна змагаўся да самага канца. Але ці можна сказаць, што ён, не толькі ён, што грамадства перамагло ўсе гэтыя небяспекі? І ён памёр з адчуваннем, што адна небяспека пераможана, але насоўваецца іншая. Хаця камуністычная пачвара была здорава пабіта і быццам распласталася, але насоўвалася на чалавецтва іншая, карычневая небяспека, каторая падняла галаву. Яшчэ пры жыцці Адамовіча, а таксама ў наш час, палітычныя працэсы адбываюцца вельмі актыўна, бурна, мы былі сведкамі, калі гэта чырвонае паядналася, сінтэзіравалася з карычневым. І Адамовіч, як вельмі чуйны, глыбокі аналітык, гэта зразумеў пры сваім жыцці. І мы бачым, як усё праўдзіцца і чырвонае перацякае ў карычневае і пагражае не толькі нейкай часціцы грамадства, а пагражае ўсяму чалавецтву. Цяпер пагроза ў сваёй толькі пачатковай форме. Каб дэмакраты аб'ядналіся, яны б перамаглі. Але дэмакратыі для таго не стае сілы. І я баюся, што ўсведамленне гэтай небяспекі, яе маштабнасці і недакладнасці дэмакратычных сіл, іх роспачнасці, так ці інакш падсеклі жыццё Адамовіча, каторы адчуваў гэта, як кажуць, падкоркай.

**— Вось апошнія радкі яго аповесці: "Так. Жыццё пражыць — не поле перайсці. Як усё проста, а сказана назаўсёды, пра ўсіх".**

— Натуральна, тым больш жыццё чалавека разумнага і сумленнага — заўсёды драма. У выпадку з Адамовічам — драма не толькі асобы, якой бы вялікай яна ні была. Гэта яшчэ і драма нацыі, драма культуры.

*Студзень, 1995 г.*

# ШТО І ЯК ПАМЯТАЕМ

У АРТЫКУЛЕ "Ніхто не любіць сатыру, апрача гледача" ("ЛіМ", 12.04.96), прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы, Алесь Петрашкевіч згадвае той час (канец 60—70 гг.), калі яму даводзілася сустракацца і працаваць з народным пісьменнікам, віцэ-прэзідэнтам АН пры падрыхтоўцы і выданні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Асобныя моманты ў гэтай змястоўнай публікацыі выклікаюць нязгоду.

Апошнім часам некаторыя журналісты, пісьменнікі, гаворачы пра акадэмічны Руска-беларускі слоўнік (М., 1953) пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі, прыпісваюць яго аднаму чалавеку — называюць "слоўнік Кандрата Крапівы". Гэта бачым і ў артыкуле А. Петрашкевіча: "Толькі ў **першым слоўніку Кандрата Кандратавіча** іх [слоў] 90 тысяч". Праўда, невядома, які слоўнік маецца на ўвазе: столькі слоў (90 тыс.) налічвае Беларуска-рускі слоўнік (М., 1962), а Руска-беларускі слоўнік (М., 1953) змяшчае блізу 86 тысяч слоў. Але ж вернемся да асноўнай думкі. Калі ёсць **першы** слоўнік Крапівы, значыць, ён не адзіны.

У іншым месцы А. Петрашкевіч так і піша: "А прыкладам таго, як авалодваць роднай мовай, напачатку маглі б паслужыць і **слоўнікі Кандрата Крапівы**, якія зачытаны да дзірак супрацоўнікамі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі.

У абодвух выпадках пра акадэмічныя слоўнікі (так можна здагадацца) гаворыцца як пра Крапівовы. А ведаем: Кандрат Крапіва не апублікаваў **ніводнага** свайго слоўніка.

Уразілі выказванні, ацэнкі А. Петрашкевіча (тады адказнага сакратара БелСЭ), што датычыць Беларускай Энцыклапедыі, галоўным чынам працы тэрміналагічнай камісіі. З іх у чытача можа скласціся думка, што ў 60—70-я гады, эпоху зліцця-злівання моваў, у самы пік ідэалагічнага застою, не было праблемы з тэрміналогіяй, з мовай, а тэрміналагічная камісія наўрад ці была патрэбная:

"Асаблівых тэрміналагічных цяжкасцяў мы не сустракалі, а нескладаныя філалагічныя пытанні вырашалі не з камісіяй, а асабіста з яе старшынёй".

Незразумела, чаму такое прыніжэнне ролі тэрміналагічнай камісіі, у якую ўваходзілі вучоныя і пісьменнікі М. Бірыла, М. Ганчарык, П. Глебка, Г. Гарэцкі, М. Лобан, Максім Лужанін, Язэп Семяжон, М. Суднік, Л. Шакун, Ф. Янкоўскі і інш.

Паводле А. Петрашкевіча, моўную палітыку ў Энцыклапедыі вяло ўсёведнае і ўсемагутнае "мы". Хто стаіць за гэтым займеннікам, аўтар артыкула раскрывае сам: "Уладкаваўшыся пад крылом Кандрата Крапівы (гэтае мяккае ўтульнае месцейка — будынак АН. — **А. К.**), мы з Пятром Усцінавічам яго ж і пачалі ўгаворваць узначаліць тэрміналагічную камісію БелСЭ".

Такім чынам, падчас стварэння БелСЭ паўставалі толькі "нескладаныя філалагічныя пытанні", якія А. Петрашкевіч (кандыдат гістарычных навук) і П. Броўка вырашалі разам з Кандратам Крапівою.

Камісія ж, выходзіць, нічога не рабіла, у ёй нават не было патрэбы, і яе "хацелася мець для падстрахоўкі" (Якой? Ад чаго? Ад каго?). Дый не толькі ў 70-я гады яна існавала, а з канца 60-х, тады яшчэ быў жывы П. Глебка, намеснік старшыні камісіі.

Можна падумаць і так: вынікі творчай працы тэрміналагічнай камісіі тры вышэйназваныя асобы проста ігнаравалі.

Навошта гэтыя, кажучы мякка, недакладнасці? Мо каб падвысіць ролю Крапівы, а разам яговых паплечнікаў?

У артыкуле А. Петрашкевіча не вядзецца спецыяльная гаворка пра БелСЭ, пра яе моўны аспект. Але ж калі нават толькі закранаецца якое-небудзь пытанне, то і тады падыход павінен быць аб'ектыўны. Выбачайце, я ўжо кажу банальнасці.

А як яно было сапраўды?

Спрабуючы часткова даць адказ, звярнуся да таго, што добра ведаю і памятаю. Але найперш трэба зазначыць. Пра тое, што праблема тэрміналогіі, як і ўвогуле моўнага выкладу, у БелСЭ існавала ад пачатку яе напісання і да выхаду апошніх тамоў, якраз і сведчыць факт стварэння тэрміналагічнай камісіі, а таксама літаратурна-кантрольнай рэдакцыі.

Прыгадвае Ян Скрыган:

"Калі я пусціўся ўжо быў у нажыты адпачынак, а Броўка распачаў дванаццацітомную Беларускую Савецкую Энцыклапедыю, ён сказаў мне:

— Памажы. Ты ж ведаеш, энцыклапедычнага стылю ў нас няма, яго трэба рабіць. Каб ён быў і навуковы, і просты. Эканомны, сціслы — і кожнаму даступны. Каб мова ў нас была не адарвана ад народнай. Абавязкова каб была народная аснова!" ("Пра даўняга сябра").

Вось якою хацеў бачыць П. Броўка мову энцыклапедыі. Зусім невыпадкова ён запрасіў на гэты няўроблены палетак беларускай мовы сябра з дзён маладосці, якога ведаў як таленавітага пісьменніка, выдатнага знаўцу мовы.

Так жадаў Пятрусь Броўка. Але пры ім былі пастаўлены людзі, якія якраз і не хацелі, каб мова энцыклапедычнага выдання была папраўдзе беларуская. Успамінае Валянцін Рабкевіч:

"У БелСЭ намеснікам Броўкі працаваў яшчэ адзін філосаф — Пётр Пузікаў. Ён быў вельмі прарускі настроены, нават хацеў пакінуць у філасофіі словы "язык" і "мысль" ("Наша Ніва", 1995, N 3).

Дзеля высвятлення праўды спашлюся і на моманты ўласнай біяграфіі.

У 1968 годзе, адпрацаваўшы 3 гады пасля накіравання ў перыферыйным інстытуце, я пачаў шукаць працы ў Мінску.

Зайшоў у Галоўную рэдакцыю БелСЭ. Там мне наладзілі экзамен. Далі машынапіс артыкулаў энцыклапедыі, старонак з паўсотні ці болей, каб я прачытаў і зрабіў ацэнку, выказаў заўвагі, прапанаваў папраўкі. Пакінулі аднаго ў пакоі. Заданне я выканаў — мяне запрасілі на старшага рэдактара БелСЭ.

У Галоўнай рэдакцыі патлумачылі: мяне бяруць для своеасаблівага ўраўнаважвання. Дыпламаваны лінгвіст павінен сачыць, каб Ян Скрыган (загадчык літаратурна-кантрольнай рэдакцыі, член тэрміналагічнай камісіі) надта далёка не ішоў у сваёй беларускасці, у выкарыстанні жывой народнай мовы, каб мова энцыклапедыі была вытрымана ў рамках тагачасных слоўнікаў і граматык.

У гэтых словах пачулася нешта завушнае, заплечнае, завугольнае. Сёння з вялікай пэўнасцю не магу сцвярджаць, хто казаў гэтак. Мабыць, П. Пузікаў, бо не П. Броўка і, здаецца, не А. Петрашкевіч.

Воляю выпадку я не стаў супрацоўнікам БелСЭ. Нечакана прыйшла тэлеграма з Інстытута мовазнаўства АН: "Тэрмінова высылайце дакументы конкурс старшага навуковага супрацоўніка Суднік". Паразважаўшы, аддаў перавагу апошняму варыянту.

Калі я зайшоў у БелСЭ і паведаміў пра сваё рашэнне, у мяне папыталіся, каго б можна было ўзяць на незанятую пасаду. Я назваў Валянціна Іванавіча Рабкевіча, які толькі што скончыў аспірантуру і з прычыны сямейных абставін не мог паехаць на працу ў іншы горад.

Выхаванец школы Ф. Янкоўскага, В. Рабкевіч, натуральна, стаў аднадумцам Яна Скрыгана, свайго земляка, майстра слова, якому яшчэ ў студэнцкія гады пакланяўся, захапляўся ягонымі творамі, а цяпер у непасрэдным кантактаванні быў паланёны яго ўзорнай беларускай гаворкай.

І праца над мовай БелСЭ пайшла яшчэ спарней.

Паслухаем, што расказаў сам В. Рабкевіч:

"І вось адзін раз намеснік галоўнага рэдактара БелСЭ Казека (ён жа потым ездзіў у КДБ браць маю справу) і Петрашкевіч, ён быў адказным сакратаром, мне й кажуць, што Скрыган з турмы выйшаў, але нацыяналізмам пахне. Трэба яго неяк прыбраць, а мяне на яго месца. Петрашкевіч яшчэ казаў мне: "Мы гэта вельмі хораша зробім". Тады я дамовіўся з Броўкам, што ўсю моўную работу сам зраблю, але каб Скрыган застаўся на сваім месцы. Так і зладзілі: за мной мова, за ім — ідэалогія. Складаныя тэрміны праводзілі праз Тэрміналагічную камісію на чале з Крапівой. Там жа быў і Глебка. Часам праз Глебку нам удавалася багата правесці" ("Наша Ніва", 1995, N 3).

У гэтым фрагменце ўспамінаў В. Рабкевіча (запісала Алеся Сёмуха ў снежні 1990 года) ёсць мясціны цьмяныя, напрыклад, "за ім — ідэалогія". Але ён пацвярджае думку, што пытанне мовы было вельмі актуальнае ў працэсе стварэння БелСЭ. Акрэсліліся два кірункі яго вырашэння: 1) бліжэй да нацыянальных вытокаў, 2) бліжэй да мовы супольнасці савецкіх народаў. Такое сутыкненне падыходаў ускладняла працу тэрміналагічнай камісіі, галіновых рэдакцый і літаратурна-кантрольнай рэдакцыі.

І ўсё ж мова першай беларускай энцыклапедыі не адрывалася ад крыніц жывога маўлення народа, абяцала разгарнуцца ва ўсёй сваёй моцы і прыгажосці. Такая мова якраз і не задавальняла службы ідэалагічнага кантролю, што выявілася ў сумнавядомых артыкулах Крапівы, надрукаваных газетай "Звязда" ў 1972 і 1979 гг. І хоць адкрыта выказаць сваю незадаволенасць на адрас БелСЭ Крапіва не наважыўся (сам жа ўдзельнічаў у яе стварэнні, быў старшынёй тэрміналагічнай камісіі), але ўскосна, спасылаючыся на непашпартызаваныя прыклады нібыта з перыядычных выданняў, літаратурных твораў, ён пачаў наводзіць крытыку на тыя моўныя з'явы, факты, што знаходзілі адлюстраванне і падтрымку ў БелСЭ, выяўлялі спецыфіку і самабытнасць беларускай мовы.

Асноўныя "нармадаўчыя" меркаванні К. Крапівы адразу пасля з'яўлення яго артыкулаў і пазней сустрэлі нязгоду сярод вядомых пісьменнікаў і лінгвістаў (Ф. Янкоўскі, Б. Сачанка, І. Лепешаў і інш.).

У 1979 годзе Максім Лужанін напісаў адкрыты ліст Кандрату Крапіве. Гэты доказны, прасякнуты клопатам пра родную мову выступ надрукаваны толькі сёлета ("Звязда". 6.06.96). Максім Лужанін адзначае "выкрывальніцкі" характар крапівоўскага артыкула "Ці будзем ездзіць па левым баку?", неаргументаванасць ягоных сцверджанняў. У прыватнасці, ён піша:

"... Ваша пяро акрэслівае кола адшчапенцаў, хто псуе мову з "добрымі намерамі", "... у імя высокай ідэі, змагаючыся за "беларускасць" беларускай мовы". Значыць, па-Вашаму, шырацца намеры благія і нават зламысныя, калі з мовы "... выкараняюцца словы залатога фонду нашай мовы, якія, да таго ж, родняць нашы братнія ўсходнеславянскія мовы"?

Такія грамавыя высновы Вы робіце на супастаўленні ўсяго толькі **дзесятка слоў**, у большасці сінонімаў, і на заўвагах датычна правільнага ўжывання іх".

Аднак большая частка непрыхільна сустрэтых Крапівою слоў (*нагода, выснова, згадка* і інш.), што выкарыстоўваюцца ім для "выкрыцця" тых "зламысных" асоб, якія "псуюць мову", у сапраўднасці не з'яўляецца парушэннем літаратурных нормаў. Гэтыя словы зафіксаваны ўжо ў Беларуска-рускім і Тлумачальным слоўніках, і напэўна не без ухвалы Кандрата Крапівы як рэдактара.

Тым часам, падкрэслівае Лужанін, у мове сапраўды "існуе няправільнае ўжыванне слоў і зваротаў, сустракаецца неўласцівы мове сінтаксіс" (як прыклады названы выраз *паехаў за цвікамі*, форма роднага склону *салдат* — замест *салдатаў*, злоўжыванне словамі *пытанне, аспект, праблема* і інш.). Але ж за такія прамашкі ніхто не збіраецца патрабаваць "публічнага раскрыжавання ў духу 30-ых гадоў".

Разважліва і надзённа гучаць словы Максіма Лужаніна, звернутыя да Кандрата Крапівы: "Вучоным-мовазнаўцам самы час і лепш за ўсё было б узяцца за павышэнне граматнасці і кваліфікацыі кніжнай і газетнай рэдактуры, загаварыць пра культуру мовы. А Вам чамусьці ўсюды бачыцца зламыснасць".

Хоць я не быў супрацоўнікам БелСЭ, але трохі прычыніўся да яе выхаду. І магу пасведчыць, што мова была ў полі зроку кіраўніцтва Энцыклапедыі. Калі быў надрукаваны машынапіс першага тома, мяне тэлефонна паклікаў на сустрэчу П. Броўка і папрасіў, каб я прарэцэнзаваў.

— Пачытайце, калі ласка. Паглядзіце, ці дакладныя, ці ўдалыя тэрміны, ці правільная будова сказаў, можа, прапануеце лепшыя варыянты, каб было па-беларуску... Я вам буду вельмі ўдзячны.

З вялікай зацікаўленасцю чытаў я старонкі першай беларускай энцыклапедыі, радаваўся з удалых мясцін, часам (наколькі дазваляла дасведчанасць) рабіў заўвагі, выказваў прапановы.

Гэтымі фактамі хачу паказаць, што неасцярожнымі словамі сёння касуецца праца многіх людзей.. Тады ж, у 70-я гг., яна перакрэслівалася гвалтоўнымі дзеяннямі. Быў звольнены з пасады ў БелСЭ В. Рабкевіч.

А перад гэтым яго напаткала не адна бяда. У выніку аўтамабільнай аварыі памёр брат Шура, дырэктар саўгаса. Неўзабаве гіне ў агні (загарэлася хата) сястра Галя, нядаўняя выпускніца педагагічнага інстытута, з дачушкай і мужам. Пазней завяршыла ланцуг жыццёвых udараў раптоўная смерць маці проста на полі, дзе яна палола бульбу ці буракі.

У такіх варунках Валянцін Іванавіч заставаўся да канца сваіх дзён аптымістам, верыў у Беларусь, у нацыянальную ідэю і працаваў дзеля гэтага не шкадуючы сябе. Ён пераклаў на беларускую мову некалькі твораў сусветнай літаратуры, правёў кваліфікаванае рэдагаванне шматлікіх кніг. Нездарма Рыгор Барадулін назваў яго ў развітальным вершы "ўпартым, не рахманым Беларусам".

Вынікі працы тэрміналагічнай камісіі колішні адказны сакратар (потым намеснік галоўнага рэдактара) БелСЭ падвёў так: "На 40 тысяч тэрмінаў за сем гадоў увялі толькі два новыя (*надмагілле, свідравіна.* — **А. К.**)... Ад аднаго тэрміна Беларуская Энцыклапедыя пазбавілася назаўсёды. Гэта — "свінаматка".

Кандрат Кандратавіч пажартаваў: калі, маўляў, пусціць у Энцыклапедыю "свінаматку", тады да яе трэба і "свінататку".

Што гэта: няўважлівасць, забыўлівасць? Напэўна ж захаваліся дакументы: пратаколы, рэцэнзіі і г. д.

Не раз пісалася, што як новы быў створаны і прыняты геалагічны тэрмін *адорвень* (руск. *отторженец*). Выходзіць, ужо тры тэрміны былі ўведзеныя, а не два...

Няправільна, аднак, лічыць, што тэрміналагічная камісія толькі зацвярджала (прымала) новыя тэрміны. Яе функцыяй было ўвогуле спарадкаванне, кадыфікацыя тэрміналогіі розных галін ведаў. Можна яшчэ назваць нямала слоў, формаў, сінтаксічных канструкцый, што сталі ўжывацца ў БелСЭ дзякуючы дбанню канкрэтных людзей у тэрміналагічнай камісіі і па-за яе межамі: *абстрагавальная дзейнасць, аўтобусы далёкіх рэйсаў, кормнік, магільня, выява, зорнае скопішча, неразбуральны кантроль, прамяні* (форма множнага ліку назоўніка *прамень), радовішча, суток рэк, па шчупаковай волі* (рус. по *щучьему веленью), язычніцтва* і інш.

А прыклад з "свінаматкай" і "свінататкам" некарэктны.

Супраць неабгрунтаванага і непажаданага ўжывання слова *свінаматка* замест спрадвечнага беларускага *мацёра* рашуча выступаў Ф. Янкоўскі, у прыватнасці, у кнізе "Роднае слова" (Мн., 1967).

Куды раней, у 1931 годзе, Якуб Колас у аповесці "Адшчапенец" дасціпна пісаў:

"Цяпер жа свінушнікаў (тут і далей падкрэслена мною. — **А. К.**) няма, а ёсць **свінарнікі** — такі вынік павароту тварам да свінні. Сама свіння падвышана ў сваёй сацыяльнай кваліфікацыі, і яе далікатна называюць "**свінаматкаю**". І знімаюць з яе фатаграфіі. Адпаведна з гэтаю пашанаю да асобы свінні звернута ўвага і на яе памяшчэнне. (...) І асабліва зварачаў увагу на сябе тут адзін кныр, сур'ёзны, важны, з даўжэразнымі, выгнутымі ікламі. Справядлівасць вымагае змяніць і яго назву — кныр адпаведным імем — **свінататка**" ("Полымя рэвалюцыі", 1931, N 3, с. 9).

Некалькі разоў прысутнічаў і я на пасяджэннях тэрміналагічнай камісіі. Памятаю, з якой павагай П. Броўка паведамляў (калі Г. Гарэцкі не мог прыйсці сам): "Гаўрыла Іванавіч прапануе... Гаўрыла Іванавіч лічыць лепшым такі варыянт..." Пастанова прымалася адносна шматлікіх тэрмінаў.

Неяк на камісіі гаворка зайшла пра назву калгаса "Рассвет". Пятро Фёдаравіч Глебка адразу прапанаваў: "Давайце пісаць "Світанне". І трэба ж было мне як таму Піліпу з канапель выскачыць: "Варта пакінуць "Рассвет", назва замацавалася, дый нашто цвяліць незычліўцаў?" Няхай бы гэтай рэплікі не падтрымалі Кандрат Крапіва ды іншыя! Можа б, меней сёння было ў беларускай тапаніміцы Вастокаў, Лучазарных, Жамчужных і падобных "светласцяў".

Тэрміналагічная камісія зрабіла вялікі ўклад у развіццё навуковага стылю і гэтым заслужыла нашу ўдзячнасць. І "хоць даўно няма той камісіі", як піша, здаецца, без шкадавання, А. Петрашкевіч, але вынікі яе дзейнасці знайшлі выкарыстанне ў 250 тамах (падлікі А. Петрашкевіча) энцыклапедычных кніжак. Моўныя набыткі стваральнікаў БелСЭ пашырыліся ў розных сферах функцыянавання беларускай літаратурнай мовы.. Нам трэба захаваць пераемнасць моўных пошукаў 60—70-х гадоў і цяперашніх, 90-х. Бо напісанае сапраўды застанецца, калі яго будуць чытаць і выкарыстоўваць далей.

**Алесь КАЎРУС**

**Ад рэдакцыі.** Нагадаем чытачам "ЛіМа", што артыкул Алеся Петрашкевіча быў юбілейны, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Кандрата Крапівы. І гэта, аналізуючы яго, трэба абавязкова ўлічваць, чаго, часам, не робіць аўтар гэтай публікацыі. І тым не менш мы друкуем гэты артыкул А. Каўруса, зважаючы на тое, што ў БелЭне зараз рыхтуецца да выпуску 18-томная нацыянальная энцыклапедыя, і згадкі аўтара аб працы над БелСЭ падаюцца нам карыснымі і надзённымі.

ЛіМ ЧАСАПІС



## НАЛЕЖЫЦЬ ДВУМ НАРОДАМ

**беларускі і польскі пісьменнік Дамінік Рудніцкі, з дня нараджэння якога споўнілася 320 гадоў (памёр 10 кастрычніка 1730 года). Вучыўся ў Віленскай акадэміі, пасля заканчэння якой настаўнічаў у езуіцкіх калегіях у Слуцку, Гродне, Мсціславе, Наваградку. У 1720 годзе Д. Рудніцкі перабраўся ў Варшаву, стаў пракуратарам Літоўскай правінцыі езуітаў, пасля жыў у Нясвіжы. Творчая спадчына Д. Рудніцкага — на дзвюх мовах. У прыватнасці, у яго рукапісных зборніках, якія, на жаль, загінулі ў 1944 годзе ў Варшаве, акрамя польскіх тэкстаў, было і дзевяць беларускіх вершаваных твораў. Гэта як напісаныя самім Д. Рудніцкім, так і апрацаваныя ім узоры фальклору. З'яўляецца аўтарам інтэрмедый на польскай мове, а таксама казанняў. Аўтарства асобных твораў Д. Рудніцкага знаходзіцца пад сумненнем, паколькі дакладна не даказана. Так, даследчыкі прыпісваюць яму аўтарства беларускіх вершаваных "Вітанняў" на наведанне Вільні ў 1729 годзе вармінскім біскупам Кшыштафам і Пінска валынскім біскупам Стафанам, што адбылося, відаць, у 1730 годзе, а таксама асобных гратэскавых твораў — "Птушыны боль", "Апісанне птушынай хворасці" і іншых.**

## У КАГОРЦЕ ЭТНОГРАФАЎ, ФАЛЬКЛАРЫСТАЎ

**зусім не "чужым" успрымаецца і Уладзімір Дабравольскі, які нарадзіўся 140 гадоў назад у сяле Краснасвецкае на Смаленшчыне (памёр 7 мая 1920 года). Ён увайшоў у гісторыю навукі таксама як беларускі і рускі краязнаўца, лексікограф. Выпускнік Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта, ён пасля рэвалюцыі чытаў лекцыі на курсах чырвонаармейцаў, у Беларускім народным універсітэце ў Маскве, у Віцебскім інстытуце народнай асветы. Даследчыцкай дзейнасцю пачаў займацца з 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Вынікам яе стала фундаментальная праца "Смаленскі этнаграфічны зборнік", чатыры часткі якой пабачылі свет на працягу 1891—1903 гг. Значныя сваім зместам артыкулы У. Дабравольскага "Адрозненні ў вераваннях і звычаях беларусаў і велікарусаў Смаленскай губерні" (1903), "Абрады і павер'і, якія датычацца хатніх і палявых работ сялян Смаленскай губерні" (1903) і іншыя. Плённа папрацаваў У. Дабравольскі з М. Бэрам, а ў выніку было апісана больш за 500 мелодый сабраных ім песень. На жаль, адшуканы толькі 182 запісы, а 9 напеваў балад былі ўпершыню апублікаваны ў 2-м томе "Балады", што ў 1978 годзе папоўніў серыю "Беларуская народная творчасць".**

## МАЙСТРЫЦА З ВЁСКІ БЕЗДЗЕЖ



**У вёсцы Бездзеж Драгічынскага раёна ўсе ведаюць Ганну Захараўну Янушчык, як самабытную народную майстрыцу-вышывальшчыцу.**

**— У маладосці, — успамінае Ганна Захараўна, — ніхто з сяброўак не мог параўнацца са мной у прыдумванні ўзораў. А мае вышытыя блузкі, фартухі, кашулі былі самымі прыгожымі.**

*На здымку: Ганна Захараўна Янушчык.*

*Фота Аркадзя МІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

Архіварыус

# СЫРАКОМЛЯ ЦІ ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ?

## НЕВЯДОМАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПАЭМА ПРА ВАРШАЎСКІЯ ПАДЗЕІ 1861 ГОДА

Генадзь КІСЯЛЁЎ

У Вільні-Вільнюсе, у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, у адной з вайскова-судовых спраў колішняга Палявога аўдытарыята, што дзейнічаў пры штабе войск Віленскай ваеннай акругі (фонд 1248, вопіс І, спр. 13), захоўваюцца паперы ўдзельніка паўстання 1863 года Леапольда Кульчыцкага. У лёсе Кульчыцкага няма нічога незвычайнага: наш зямляк, навучэнец Пецярбургскага будаўнічага вучылішча, як і многія яго аднагодкі, стаў у 1863 годзе пад сцяг паўстання, каб са зброяй у руках заваяваць дэмакратычныя правы, свабоду і незалежнасць Польшчы, Літвы, Беларусі. Згадку пра далучэнне Кульчыцкага і яго таварышаў па вучылішчы да паўстанцаў знаходзім у грунтоўнай, надзвычай багатай на прозвішчы і факты працы гісторыка Т. Сныткі аб удзеле студэнтаў у паўстанні 1863 года [1]). І з'ява гэтая для таго часу, паўторым, самая звычайная, нават тыповая — паўстанцкія шэрагі літаральна поўніліся студэнтамі і навучэнцамі. Але віленская справа N 13 прыцягвае ўвагу дадатковымі цікавымі акалічнасцямі. У рукі следчых трапіў дзённік Кульчыцкага студэнцкай пары, запісы ў якім яскрава малююць юнака — узнёслага патрыёта і няменшага фантазёра-летуценніка. Вось, напрыклад, падкрэслены следчымі запіс ад 25 снежня 1858 года, недзе якраз на Каляды ("крэсовая" пальшчызна Кульчыцкага вельмі лёгка кладзецца па-беларуску):

"Усе святы піў, спаў, еў і чытаў кніжкі. Пасля прачытання Багдана-Зіновія Хмяльніцкага нарадзілася думка быць вызваліцелем айчыны. Але як, якім спосабам? Доўга думаў, нарэшце даверыў гэты сакрэт Вішнеўскаму, ён быў такой жа думкі і мы вырашылі дзейнічаць разам. Найперш трэба разбурыць міны, падкладзеныя пад усёй Вільняй, таму што ў часе паўстання міны могуць быць падпаленыя і ўвесь горад разам з яго абаронцамі без усялякай патрэбы ўзляціць у паветра. Аднак якім чынам адкрыць гэтыя лёхі? Вядома, што ад кафедры (кафедральны касцёл у цэнтры Вільні пад гарой Гедыміна, — **Г. К.**) да Трокаў ёсць лёх, па якім хадзіла працэсія нават зусім нядаўна; вядома, што пад Вяллёй ёсць лёх. У іх, пэўна, ёсць порах, але дабрацца да іх цяжка. Аднак, пэўна, ёсць лёхі, якія злучаюцца з гэтамі лёхамі, напрыклад, лёхі, што вядуць у кляштар езуітаў у Закрэце, пэўна, злучаюцца не толькі з гэтымі галоўнымі лёхамі, але, апрача таго, маюць сувязь і з крапаснымі падзямеллямі, прынамсі, мне так здаецца. Да лёхаў у Закрэце дабрацца ніяк нельга, таму што муры ўвесь час абвальваюцца, і, каб у іх забрацца, трэба рызыкаваць галавой, але дом Вішнеўскага насупраць касцёла Св. Катарыны ўвесь на лёхах, і ў садзе ёсць уваход у адзін з іх, але паколькі гэта склеп, бо, будуючы склепы, рабочыя адкопваюць які-небудзь лёх, адгароджваюць патрэбны пад склеп кавалак і ставяць сцяну, дык трэба прабіць сцяну і яшчэ невядома якую, дык вельмі шмат трэба будзе на гэта ўжыць часу і працы, але калі адкрыем лёхі, то, пэўна, дабяромся да закрэцкіх, а можа і далей. Карысць ад пазнання лёхаў яшчэ ў тым, што ў часе аблогі горада альбо ў часе гарадскіх сутычак войска, хаваючыся там, можа зайсці ў тыл непрыяцелю. Нарэшце, можа быць дасканалае месца для тайнай нарады змоўшчыкаў, для перахоўвання фінансаў, рыштунку і ці мала для чаго. Цяпер пытанне, якім чынам дабрацца да Вільні, як даехаць, не маючы ні капейкі ў кішэні? Я сказаў гэта Вішнеўскаму і атрымаў на гэта адказ. Рада такая, каб напісаць да сваякоў, просячы грошы".

Вось такія ў юнакоў клопаты.

Але неўзабаве ў нашых хлопцаў ужо новая фантазія (запіс ад 11 лютага 1859 года) — яны замышляюць ні больш ні менш як зрабіць падкоп і ў пэўны момант "высадзіць у паветра" царскі палац з усёй імператарскай фаміліяй. Зноў робяцца падлікі-калькуляцыі — колькі на гэта патрэбна грошай. Аказваецца, на неабцяжараны жыццёвым вопытам хлапечы розум, усё гэта вельмі проста — наняць дом на Мільённай паблізу палаца, купіць 500 пудоў пораху і г.д. Само сабой зразумела, што і гэты раз усё скончылася фантазійна-летуценным дзённікавым запісам. Цікава, што і сам Кульчыцкі лічыў гэты план "страшным і жахлівым".

Аўтар дзённіка прагна ловіць чуткі (не заўсёды рэальныя) пра апазіцыйныя настроі ў рускім грамадстве — высылка ў Сібір літаратара Безабразава, раскрыццё нейкай "змовы супраць імператара, складзенай з 300 асоб" (запісы ад 24 лістапада і 6 снежня 1859 года). У суботу 7 красавіка 1860 года запісаў: "Чуваць, што ў Літве і Польшчы ходзяць спіскі ("спісак" па-польску "змова", але тут хутчэй слова ўжыта ў рускім сэнсе — "рукапісы", — **Г. К.**) па руках супраць маскалёў; дай-та Божа, каб штосьці разумнага зрабілі, але мне здаецца, што ўзняць рокаш без пэўных сталых сукурсаў (дапамогі. — **Г. К.**) з боку іншых дзяржаў будзе справай згубнай для Польшчы". 21 красавіка 1861 года ў пісьме да маці (копія — у дзённіку) піша, што не астанецца ўбаку, "калі айчына пакліча мяне пад свае штандары". Так яно праз два гады і здарылася.

Побач з дзённікам у вайскова-судовай справе і некаторыя іншыя рукапісы Кульчыцкага. З лонданскай газеты "Дэмакрата Польскі" ад 2 лістапада 1861 года (тайнымі каналамі нумары эміграцыйнага выдання траплялі ў Пецярбург) юнак скапіраваў цікавы варыянт вядомага тагачаснага гімна "Божа, што Польшчу..." Трэба сказаць, што версій-пераробак гэтага характэрнага папулярнага твора існавала безліч (былі і беларускія варыянты). Тут "руская версія", напісаная, паводле газетнай заўвагі, нібыта нейкім "вальнадумным расіянінам" і перакладзеная потым на польскую. Верш пачынаўся зваротам "Божа, што Расію...", у ім выказвалася надзея, што з цягам часу ў Расіі прыбудзе Пестэляў і Герцэнаў.

Але найбольшую цікавасць выклікае акуратна перапісаная Кульчыцкім няскончаная беларуская паэма пра варшаўскія падзеі 1861 года (л. 216—218 адв. справы). Твор без назвы, назавём яго паводле першага радка "Плынуць вятры ат паўночы..." або нават карацей — "Плынуць вятры..." Кульчыцкі перапісаў першую частку і пачатак другой, усяго 168 радкоў.

Частка першая складаецца з невялічкага энергічнага запеву і разгорнутага апісання крывавай, раз'юшанай расправы царскіх войскаў з жыхарамі Варшавы. Гэты аповед напісаны шматскладовымі сілабічнымі вершамі, блізкімі да верша "Пана Тадэвуша". Асобныя сюжэты-эпізоды агульнай карціны выдзелены ў невялікія раздзельчыкі, пазначаныя рымскімі лічбамі. Такіх раздзельчыкаў восем, у кожным ад 10 да 28 радкоў.

Другой частцы папярэднічае эпіграф з двух народных прыслоўяў: "Як паслаўся, так праспаўся! — Круці ня вярці, а трэба ўмярці!" Апошняе, у трохі іншай рэдакцыі ("Круці не вярці, а памерці трэба"), за некалькі гадоў перад гэтым ужо апрабіравалася ў беларускай літаратуры ("Вечарніцы" Дуніна-Марцінкевіча).

Аўтар абяцае расказаць у гэтай няскончанай частцы пра прычыны варшаўскай драмы, пра гістарычныя карані такога лютавання царскіх апрычнікаў і пачынае здалёк — ад паражэння царызму ў Крымскай вайне. Пераможцы — французы і "брытаны" — нібыта запатрабавалі ад рускага цара даць свабоду народу. Сваёй агульнай танальнасцю ды часткова і самім у пэўнай меры легендарным сюжэтам гэтая частка нагадвае звычайныя тагачасныя беларускія "Гутаркі", хаця строга вытрыманыя шасцірадковыя строфы з рыфмоўкай *аабввб* сведчаць пра дастатковую версіфікатарскую культуру аўтара. Такую страфу вельмі любіў Дунін-Марцінкевіч ("Гапон", "Купала", "Шчароўскія дажынкі", "Халімон на каранацыі"). Традыцыйны сюжэт распрацоўваецца тут вельмі дэталёва, з прамовамі выступоўцаў на мірным кангрэсе, часам даюцца нават партрэтныя характарыстыкі, у стылі народнага гратэску (уласцівага і Дуніну-Марцінкевічу):

**Найперш стаў казаць пранцуз,**
**Надуўшыся, як гарбуз —**
**Рукой грозіць, кулаком...**

На жаль, працягу гэтай часткі, як і ўсёй паэмы, мы не маем.



*Варшаўскія трагічныя падзеі 1861 года.*

*З замежнай прэсы таго часу.*

У аснову паэмы — маем на ўвазе перадусім яе першую, цэнтральную для ўсяго твора частку — пакладзена зусім пэўная рэальная падзея — расстрэл бяззбройнай маніфестацыі на Замкавай плошчы ў Варшаве 8 красавіка 1861 года (27 сакавіка паводле старога стылю). Гэта была адна са стыхійных народных маніфестацый у сувязі з закрыццём у Варшаве ўладамі Агранамічнага таварыства, якое рыхтавала сацыяльна-эканамічныя рэформы на вёсцы. Паводле апісанняў гісторыкаў, маніфестантаў каля Замка чакала войска — пяць рот пяхоты, на флангах кавалерыя, якая складалася з кубанскіх казакоў і конных жандараў. Камандаваў войскамі баявы генерал (удзельнік севастопальскай абароны) Хрулёў, які загадаў разагнаць "зборышча" спачатку жандарам. Працытуем папулярную кнігу "Студзеньскае паўстанне" польскага гісторыка А. Сакалоўскага, якая выйшла ў свет у 1911 годзе ў Вене:

"Пасля беспаспяховага націску конніцы, якая, сустрэўшы працэсію, што вярталася з Павонзак, параніла бернардзіна, які ішоў наперадзе з крыжам, надышла чарга пяхоты. Але і яна таксама, нягледзячы на тое, што раз'юшаныя салдаты наўслеп білі прыкладамі і калолі штыкамі, не здолела разагнаць шчыльнага натоўпу.

Тады Хрулёў загадаў зарадзіць зброю і пасля кароткага чакання закамандаваў агонь. Усяго дадзена адзінаццаць залпаў, 484 стрэлы (афіцыйныя звесткі, — **Г. К.**). Кулі, трапляючы ў шчыльную масу, рабілі страшэннае апусташэнне. Колькасць забітых вызначыць можна прыблізна ў 200 чалавек [2]), параненых як мінімум удвая болей.

Люд стаяў або кленчыў, са спяваннем набожных і патрыятычных песень адкрываў грудзі для куль і штыкоў, але не адступаў ні на крок". [3])

Мітрэнгі

# МІГРАНТЫ І ТУБЫЛЬЦЫ

## ЭТНІЧНАЕ ПЫТАННЕ І ГІСТАРЫЧНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

АБ МЕСЦЫ, часе і ўмовах утварэння этнасаў разважаюць здаўна і многа. Відаць, пошук адказаў на гэтыя пытанні — патрэба чалавечай душы. Намаганні, якія накіраваны на яе задавальненне, — пачэсная справа. Але часам здараецца сустрэцца толькі з падабенствам такой дзейнасці. Яго мэта — не задавальненне, а выкарыстанне той высакароднай патрэбы, каб — узняць этнічнае пытанне.

Тыя этнасы, што ўзніклі ў маланаселеных мясцінах Еўропы старой эры, першапачаткова не мелі патрэбы ва ўтварэнні этнічнай назвы. Прычына таго — ізаляванасць. Патрэба узнікла з цягам часу, калі павелічэнне шчыльнасці насельніцтва і развіццё камунікацый значна пашырылі міжэтнічныя кантакты. Звычайна ў гэтых кантактах этнасы давалі імёны не сабе, а суседзям. Калі прыбышы давалі імя тубыльцам, намагаючыся адлюстраваць іх саманазву, часта выкарыстоўвалася слова, якое на мясцовай мове азначала "чалавек". Калі ж тубыльцы давалі імя прыбышам, звычайна з той жа мэтай карысталіся словам мовы чужынцаў, якое азначала род дзейнасці ці спецыяльнасць, што завяла іх у чужыя краі. Найчасцей то былі паляўнічыя, вандроўнікі, гандляры ці ваяры. Напрыклад, этнічная назва "вікінгі" паходзіла са скандынаўскамоўнага "вясляр".

Пісьмовая фіксацыя адной з этнічных назваў прыбышаў-славян лацінамоўнымі тубыльцамі мела форму "склавус". Тут да славянамоўнай асновы дададзена лацінская часціна "ус". Якое значэнне мела славянамоўная частка слова, сёння можна толькі "вылічаць". Прапануем варыянт такога "вылічэння". Каб зрабіць яго, карысна спачатку разгледзець больш позні моўны працэс утварэння назвы "Салавецкія астравы". На нашу думку, яна азначае, што гэтыя астравы былі асвоены салаўцамі. Так зваліся ўдзельнікі лавецкіх гуртоў, што ажыццяўлялі групавы лоў ці то рыбы, ці то звера. Такі від лову вызначаўся словам "салоў" (папаморску гэта гучала "солов"), утвораным па ўзору слова "супрацоўніцтва" (па-руску — "сотрудничество"). Назва ўдзельніка такога лову ўтворана шляхам дабаўлення да асновы слова "салоў" часціцы "ец". Па-руску атрымалася "соловец". Пісьмовая фіксацыя этнічнай назвы славян адбылася прыкладна на тысячу гадоў раней гэтага.

У славянскай мове таго часу яшчэ не ўжывалася словаўтварэнне з суфіксам "ец", таму пазнейшаму "соловец" адпавядала старажытнае "съловъ/сълав" (у залежнасці ад дыялекта). У нашай сённяшняй мове існуюць адбіткі такога словаўтварэння ў словах "рыбалоў", "птушкалоў", "звералоў". Вядома, што ў лацінскай і іншых сістэмах фанетычнага пісьма не было знака для адлюстравання няпоўнагалоснага гуку "ъ" старажытна-славянскай мовы. Відавочна, пісары выйшлі са становішча, ужыўшы знак, што адпавядаў іхняму гуку "к". Пазней ужываўся і знак, адпавядаючы грэкамоўнаму гуку "т". Множны лік для "съловъ/сълав" меў формы "съловe/сълаве" (далей будзем ужываць адну з форм).

Магчыма, тыя "сълове" сукупны вынік сумеснага лову звалі "ізълава", г. зн., што злоўлена, здабыча. На падставе гэтага яны ўтварылі вітальную форму "буді ізълавенъ", г.зн. будзь здабычлівы, удалы у лове. З цягам часу ў выніку фанетычных пераходаў гэта стала гучаць "будъ славен" па ўзору фанетычнага пераходу ад старажытна-славянскага "ізъловіті" да сучаснага рускага "словить".

Калектыўны лоў быў вельмі эфектыўны, хутка вычэрпваў мясцовыя рэсурсы. Таму "сълове" былі вымушаны да няспыннай міграцыі. Яны аказаліся прадстаўнікамі свайго этнасу за тысячы вёрст ад прарадзімы і вызначылі яго імя між іншых народаў. Але і міграцыя мела мяжу магчымасці. Калі яна згасала, "сълове" паступова пакідалі супольнасць і пераходзілі да іншых заняткаў. У памяць аб былой супольнай прыналежнасці былы "съловъ" пачынаў звацца "съловінъ". Даданне часціны "інъ" азначала, што носьбіт назвы паходзіць з супольнасці, назва якой склала аснову слова. Множным лікам для "съловінъ" было "съловене". Са знікненнем мацярынскай супольнасці праз нейкі час страчвалася і памяць аб ёй. Назва "съловене" стала ўспрымацца як указанне на этнічнае паходжанне, а не на сацыяльнае ці прафесіянальнае. Супольнасць "съловене", выдзеленая са "сълове", займалася ўжо не ловам, а чым заўгодна. Калі нехта пакідаў яе ўжо цяпер, то да яго прыкладалася назва "съловенінъ". Словаўтваральная часціна "інъ" ужывалася другі раз таму, што першая ўжо ўспрымалася як частка кораня слова. Пазней у некаторых славянскіх мовах і дыялектах шляхам страты "ъ" і фанетычных пераходаў са слова "съловенінъ" утварылася "славянін", множны лік — "славяне". Такім чынам, назва "словене" пачала сваё існаванне як сродак адрознівання групы выхадцаў з сацыяльна-прафесійнай супольнасці, потым стала назвай, што аб'яднала яе носьбітаў у этнічную супольнасць. Гэта звычайны жыццёвы цыкл для групавых назваў. Калі ён скончыўся для назвы "съловене", пачалося ўтварэнне другіх адрознівальных назваў для суполак славян, аселых у розных месцах. Новыя назвы адпавядалі альбо характару мясцовасці, альбо новаму роду заняткаў, да якога перайшла супольнасць (драўляне, паляне, дрыгаўляне, лужычане ці смалняне, курняне).

Выключэннем з гэтай схемы сталі ільменскія словене. Міграцыя суполак "сълове" прыпынілася на беразе Ільменя не з-за вычарпання магчымасці адшукаць новыя рэсурсы для лову, а з-за немагчымасці вычарпання рэсурсаў, якія былі знойдзены тут. Спыніўшы з-за гэтага свой рух, супольнасць "слове" захоўвала пачатковы прафесійна-сацыяльны стан і, адпаведна, назву аж да летапісных часоў. Таму арабскія землеапісальнікі і назвалі той край менавіта "Славія", а не "Словенія". А назва "словене" працягвала адрозніваць суполкі, для якіх мацярынскай была супольнасць "слове". У другіх месцах гэтую функцыю ўжо выконвалі іншыя назвы. Тым не менш, памяць аб назве, якая ўсіх абагульняе, жыла.

Яшчэ Францыск Скарына царкоўна-славянскую мову зваў "словенскый языкъ", мову сваіх сучаснікаў-супляменнікаў — "прироженый руский язык", а іх саміх — "братие моя русь люди посполитые". Адносна "словенскага языка" Скарына заўважае: "Мя милостивый бог с того языка на светъ пустілъ". Гэтым ён выявіў усведамленне, што ягоны "руский языкъ" паходзіць са славянскага. Гэтак жа зваў сваю мову і Сымон Будны. Відавочна, што Скарына і Будны ўспрымалі назву "русь", як этнічнае імя. Але першапачаткова яна мела іншы змест.

Сучасныя гісторыкі лічаць, што нейкі старажытны этнас "ругі" ў некалькіх зонах славянскага арэала існавання (Карпаты, паўднёва-ўсходняя Прыбалтыка, Паннонія і інш.) змяшаўся з мясцовымі славянамі і ці то навязаў, ці то падараваў сваю этнічную назву асобным суполкам. Сцвярджаецца, што калі "руг" увайшло ў славянскі лексікон, то па законе



другой палаталізацыі заднеязычных адбыўся пераход формы "ругі" ў "русі" і далей у "русь". Але па гэтым законе гук "г" перад мяккімі галоснымі і няпоўнагалоснымі пераходзіць у "да". Павінна было адбыцца "ругі/рудзі/рудзь". Калі спытаць рускамоўнага гісторыка, чаму ж так не адбылося, ён хутчэй за ўсё адкажа, што гэта пакрыта цемрай невядомасці. Але беларус, украінец, паляк на падставе ўласнай моўнай практыкі можа здагадацца, што, калі ў канцы ланцуга стаіць "русь", то напачатку было вельмі славянскае слова "рух", а не "руг". Калі так, то славянам не было неабходнасці змешвацца з іншым этнасам, каб даць нейкім сваім суполкам назвы "рухі/русі/русь".

У старажытнай славянскай мове адным і тым жа словам называлася і дзеянне і тая асоба, якая выконвала гэта дзеянне. Мы ўжо бачылі гэта на прыкладзе слова "лоў", якое ў старажытнасці азначала і тое, што мы сёння завём "лоўля", і тое, што мы сёння завём "лавец". Таксама старажытнае "рух" азначала і тое, што мы сёння завём "рух", і тое, што мы сёння завём "руховец", альбо "рухоўца".

Старажытны "рух" (асоба) быў удзельнікам славянскай міграцыі другой хвалі. Гэтая міграцыя ішла з некалькіх цэнтраў, утвораных некалі раней аселымі суполкамі мігрантаў "сълове". Новая міграцыя адбылася на падставе дзейнасці іншай, чым лоў. Суполкі гэтай міграцыі часам у напрамку, зваротным былой міграцыі першай хвалі. Таму назвы, вытворныя ад "рух/русь", фіксуюцца ў адным часе і ў Скандынавіі, і ў Карпатах, і на паўднёвым усходзе Балтыкі, і на Чорным моры, якое мела назву Рускае. Не будзем сцвярджаць, што не было этнасу "ругі". Але, калі сацыяльная група славян "рухі/русі/русь", мігруючы, набліжалася да "ругаў", гэта магло прывесці не да пераносу, а толькі да блытаніны назваў. Для яе (блытаніны) храністы і гісторыяграфы з'яўляюцца лёгкай здабычай. Але з юрыстамі інакш. Нездарма ў лацінамоўным каментарыі да законаў Эдуарда Спаведніка напісана: "Terra Rugorum, якую мы завём Русіяй". Норма "вучонага" пісання патрабавала надаць назве форму, якая магла ўвесці ў зман. Добрасумленны законнік адразу ж тлумачыць, якая з ужываемых "невучоных" назваў адпавядае гэтай. Відаць, былі падобныя і іншыя.

Што датычыць спосабу існавання мігрантаў, то прачытайце: "Пашаў яны не маюць, але харчуюцца толькі тым, што прывозяць з зямлі славян". Альбо: "Гэта народ, які далёка ад нас жыве, варварскі, вандроўны, ганарыцца зброяй і не мае ўнутранай варты, непакорны, без ваеннай выкшталчонасці". Калі сказаць, што гэта напісана пра Запарожскую Сеч, то не будзе з чым спрачацца. Але амаль за тысячу гадоў да ўтварэння Сечы за Парогамі гэта напісалі Джэйхані і мітрапаліт Фоцій пра нейкую русь, што трапіла ў іх поле зроку, альбо слыху. Тыповае "сечавое казацтва", толькі назва другая. А, напэўна, былі і старажытныя аналагі казакамстанічнікам.

Вядома, такія міграцкія суполкі не былі ні аднапляменнымі, ні нават монаэтнічнымі. Таму яшчэ ў часы Рурыка і Святаслава "русь" азначала нешта накшталт казацкай, а не этнічнай суполкі. Цалкам верагодна, што дачку Гастамысла, маці Рурыка. пашлюбіў не вараг, а такі "скандынаўскі казак" славянскага паходжання. Яго нашчадак Рурык, будучы "атаманам" славянскай "станіцы", падданай скандынаўскага конунга, адначасова быў прызнаны гэтым конунгам за ярла, а потым сам стаў конунгам. Гэта дало яму дасведчанасць у справах дзяржаўнага кіравання, з-за чаго ён і быў "закантрактаваны", як супляменнік, у Ладагу для ўтварэння дзяржавы. З такога пункту погляду захоп улады Рурыкам у Ноўгарадзе выглядае, як выкананне кантракту, які абавязваў яго навесці "ряд" у зямлі, дзе гэтага "ряду" не было.

Рурык прывёў з сабой вялікую грамаду славян і варагаў, што звала сябе "русь", якая і дала назву дзяржаве, у адрозненне ад вядомых тады славянскіх дзяржаў — балгарскай і мараўскай. Пачаткова этнічнай асновай рускай дзяржавы былі ільменскія славяне (словене), якім Рурык не быў этнічна чужым. Можа, імя Рурык скандынавы ўтварылі ад славянскага назоўніка "рух", як з назоўніка "гарады" ўтварылі назву "Гардарыка"? Калі дзяржава ўключыла палян, драўлян, дрыговічаў і іншых, то "русь" стала этнічнай назвай, абагульняючай для ўсіх усходніх славян. Сплаў іх племянных дыялектаў прывёў за пару стагоддзяў да ўтварэння ўсходнеславянскай мовы, званай старажытнарускай, і адпаведнага этнасу. Падобная з'ява ў новы час адбылася на Кубані, дзе сплавіліся ўкраінская і руская мовы. Калі такі працэс пачаўся пры Рурыку, то ўжо пры Яраславе Мудрым павінен быў скласціся канчатковы вынік у выглядзе этнасу, прамежкавага паміж шматпляменнасцю ўсходняга славянства дарурыкаўскавага часу і трыма сучаснымі этнасамі.

Ці меў рацыю вялікі Скарына, завучы супляменнікаў "братие моя русь"? На тэрыторыі, дзе сёння жывуць беларусы, створаны старажытныя славянамоўныя тэксты, пісаныя арабскімі літарамі (аль кітабы). У іх зафіксаваны дыфтонгі "дз", "дж". Дыфтонг "дз" за паўтысячагоддзя да аль кітабаў быў зафіксаваны Кірылам і Мяфодзіем у мове македонскіх славян і адлюстраваны ў створаным імі славянскім пісьме літарай "дзело". Гэтую літару ўжывалі ў часы аль кітабаў на ўсіх усходнеславянскіх тэрыторыях адначасова з літарай "земля", што адлюстроўвала гук "з". Такім чынам, дыфтонг "дз" — гэта агульнаславянская моўная рыса, якую потым страцілі рускія і ўкраінцы, а беларусы захавалі. З другога боку, усе ўсходнія славяне адначасова страцілі праславянскія насавыя гукі "ан", "ен" менавіта ў часы этнагенезу старажытнарускага этнасу. Выходзіць, што сённяшнія беларусы больш "старажытнарускія", чым сённяшнія рускія і ўкраінцы. І калі ўжо настойваць, што яны ніколі не былі адным этнасам, то трэба даказаць, што менавіта рускія і ўкраінцы зваліся па-іншаму, калі Скарына і Будны звалі сваіх супляменнікаў руссю.

З якіх матываў гэта ўсё напісана, чытач вызначыць сам. А мы прапануем меркаванне, што калі хтосьці выказвае па пытанні нешта новае, раней нікім не выказанае, то найверагодней ён жадае чымсьці падзяліцца. Калі ж, не ўносячы свайго, толькі абвяргае, альбо пацвярджае сказанае іншымі, то і мэта іншая.

Зразумела, усё, напісанае тут, — версія, але ў іншых сцвярджэнняў стасус такі ж самы. А вось далей ідзе ўжо не версія, а пазіцыя. Яна не залежыць ад таго, ці спраўдзіцца версія.

Адбылося так, што сёння існуюць тры ўсходнеславянскія этнасы. Па-рознаму складваўся ў гісторыі іх дзяржаўны стан і ўзаемаадносіны. Але этнасы не могуць быць віннымі. Веданне гісторыі ёсць прыкмета культуры, але не можа мець прававой моцы. У гістарычна неадукаваных людзей тыя ж чалавечыя правы, што і ў адукаваных. Падзеі, дакументы, дзеячы таму і становяцца гістарычнымі, што страцілі юрыдычную моц.

Няма падзелу справядлівасці на гістарычную і іншых гатункаў, справядлівасць існуе толькі адна. Ці яна ёсць для людзей, ці яе няма, але толькі пры іх уласным жыцці. Грунтаваць палітыку на матывах гістарычнай справядлівасці для таго ці іншага этнасу — гэта злачынства супраць чалавечнасці. Там, дзе з'явы этнічнай дыскрымінацыі ці прыгнёту яшчэ існуюць, з імі трэба змагацца з пазіцыі правоў чалавека. Ніякіх этнічных рэваншаў! Культуру і мову ўзвышаюць любоўю.

**Эрнст САРЫЧАЎ**

*г. Мінск*



ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

| | |
|---|---|
| *Х. Дунец* | (1932-35) |
| *І. Гурскі* | (1935-41) |
| *А. Куляшоў* | (1945-46) |
| *М. Горцаў* | (1947-49) |
| *П. Кавалёў* | (1949-50) |
| *В. Вітка* | (1951-57) |
| *М. Ткачоў* | (1957-59) |
| *Я. Шарахоўскі* | (1959-61) |
| *Н. Пашкевіч* | (1961-69) |
| *Л. Прокша* | (1969-72) |
| *Х. Жычка* | (1972-76) |
| *А. Асіпенка* | (1976-80) |
| *А. Жук* | (1980-86) |
| *А. Вярцінскі* | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,* **Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 331-985**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4400
Нумар падпісаны 1.8.1996 г.
Заказ 4244/Г

П 123456789101112
М 123456789101112